
Тамара Кердалевіч→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Уладзімір Мацюка→5

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 03 (3166) Год LXII Беласток, 15 студзеня 2017 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)






# Ячна патрабуе падтрымкі

**Чалавечы свет гэта месцы — дом, месца працы, храм, могілкі... Месцы ствараем для іншых, не толькі для сябе. Менавіта царква ў Ячне, дзякуючы прыхаджанам, якія клапоцяцца пра яе, даглядаюць, надае гэтаму месцу тоеснасць. Таму сёння так важнай мэтай для Ячанскага прыхода з'яўляецца аднаўленне купала храма. Той працякае, руйнуецца яшчэ больш не толькі звонку, але і ўнутры. Для невялікай колькасці прыхаджан гэта велізарны кошт. Адным са спосабаў збору грошай з'яўляюцца дабрачынныя мерапрыемствы, ладжаныя настаяцелем айцом Пятром Ганчаруком і вернікамі. Кожны можа падтрымаць парафію — частку нашай супольнасці.**

Ячна — вёска на Сакольшчыне. Хаця невялікая і аддаленая ад большых гарадоў, ніколі не была забытая беларускімі дзеячамі. Гэта сведчыць аб тым, што самі жыхары патрабавалі не толькі праз царкву, але і праз сваю мову і культуру, адстойваць сваю тоеснасць. Першы рэдактар «Нівы» Георгій Валкавыцкі прысвяціў той вёсачцы старонкі ў сваёй кніжцы «Віры». Сам быў там частым госцем, таксама як і іншыя журналісты тыднёвіка. Відавочна жыхары адчуваюць гэтую сувязь і сёння ў многіх хатах чытаюць «Ніву».

Святой памяці айцец Рыгор Сасна ў сваёй кніжцы «Święte miejsca i cudowny ikony» піша, што першыя звесткі пра ячанскую царкву паходзяць з XVI стагоддзя: «W czasie pomiary włócznej za panowania królowej Bony wymieniono Jaczno z cerkwią (1540 r. wspomniany pop zasidrański)».

Да старой, драўлянай царквы людзі былі вельмі прывязаныя. Тым больш, што паводле мясцовых, сама Маці Божая выбрала гэтае месца.

— Царква мела быць пабудавана паміж Ячнам і Грабянямі, — кажа старшыня Парафіяльнай рады Павал Лазук з Гарасімаўцаў. — Калі везлі ікону Божай Маці, валы спыніліся менавіта ў Ячне. Не хацелі далей ісці. Тады вырашылі пакінуць яе нанач. Зранку адна дзяўчынка ўсім пачала расказваць свой сон. Прыснілася ёй Божая Маці, якая сказала: «Zdzies majo miesto. Zdzies uliublionnaje». І хаця ўжо былі вылітыя фундаменты ў другім месцы, каля Грабянёў, царкву вырашылі пабудаваць тут, дзе спынуўся воз з іконай.

Пра цудадзейную ікону а. Рыгор Сасна піша: «O samej ikonie więcej wiadomości zamieszcza *Grodnienskij Kalendar*. W tej cerkwi znajduje się ikona MB uznawana za cudowną, w średniowiecznej złoconej drewnianej ramie, umieszczona w kiocie na lewym klirosie. Wymiary ikony: długość 1 arszyn i 5 wierszków, a szerokość 1 arszyn i 5 wierszków, grubość 1 wierszok. Wizerunek Matki Bożej w stylu bizantyjskim, malowany na grubej desce w 1624 r. w mieście Lipsku. Matka Boża na ikonie w młodym wieku, emanuje z niej dobroć i pokora. Ikona w typie Hodegetrii na lewej ręce trzyma Dzieciątko, a prawą ręką wskazuje Pana Jezusa. Twarz Bogomłodzieńca wyglądem przypomina dorosłego młodzieńca — włosy gładkie koloru oliwkowego, lewą ręką trzyma rulon, a prawą ręką wskazuje Bogurodzicę. Matka Boża ubrana w zieloną suknię ze złotym obramowaniem, płaszcz w wiśniowym kolorze. Pan Jezus ubrany w szarą sukienkę, a płaszcz w kolorze ugrowym. Wokół głów pozłocone drewniane nimby». (ks. Grzegorz Sosna, *Święte miejsca i cudowne ikony. Prawosławne sanktuaria na Białostocczyźnie*, 2001).

Ікона Божай Маці славілася цудамі. Вернікі атачылі яе асаблівай пашанай, давяраючы ёй усе турботы штодзённага жыцця. Айцец Рыгор Сасна, у якасці яркага доказу яе культу, прыводзіць гімн да іконы Божай Маці, які спяваецца ў ячанскай царкве да сённяшняга дня. Тым большай для людзей была трагедыя, якая здарылася ў 1986 годзе. Тую падзею і ўсе эмоцыі жыхароў на старонках «Нівы» апісала ў 2005 годзе Ганна Кандрацюк-Свярубская. «(...) адвячоркам, у хаўтурны дзень Кузьмы і Дзям'яна, у вёсцы ўспыхнуў пажар. Гарэла царква. Людзі стаялі ачмурэлыя, царква палала як свечка, не было шанцу яе ратаваць. Згарэла датла. І разам пажарышча паглынула іх цудоўную Ікону. Сляды стыхіі захаваліся на векавых соснах, якія акаляюць новую мураваную царкву Божага Нараджэння». (Ганна Кандрацюк-Свярубская, *15 мярлін і адны хрысціны*, «Ніва», 2.10.2005, № 40).

Менавіта гэтая царква, драўляная, з цудадзейнай іконай, выступае ва ўспамінах старэйшых людзей.

— На Раство, а старая царква была большая за гэтую, мароз. Дваццаць, дваццаць два градусы марозу. А над царквой туман ад цеплыні! — успамінае Павал Лазук. — Маці абавязкова брала мяне на літургію. Я і па сёння пры ёй, пры царкве. Гэта маё маленства. Вялікая і богабаязная парафія была.

Вернікі доўга не чакалі. Хаця ў тым самым часе ўжо будавалася царква ў Дуброве-Беластоцкай, што паўплывала на падзел Ячанскай парафіі, людзі адчувалі патрэбу, каб на спрадвечнае месца вярнуць храм. Каб быў побач так, як было ў найраннейших іхніх успамінах. Пісьменнік, журналіст і ўраджэнец Дуброўшчыны Юрка Нахіла ў штодзённы «Kurier Poranny» ў 1995 годзе пісаў: «Po pożarze miejscowa ludność przystąpiła do odbudowy cerkwi. Na miejscu spalonej drewnianej postanowiono wznieść murowaną. Nowo zbudowana cerkiew została poświęcona 2 sierpnia 1993 r. w dzień św. Proroka Eliasza. Jedna z parafianek, Zofia Biełomyzy, przy wsparciu finansowym rodziny, ufundowała wierną kopię Jaczniańskiej Ikony Matki Bożej. Wykonawcą był artysta malarz Mieczysław Brzozowski z Białegostoku. Zawieszona została ona w cerkwi w bocznym kiocie, gdzie i przed pożarem się znajdowała». (J. Nachiło, *Gojenie ran*, „Kurier Poranny", 1994, nr 5, s. 12).

Царква ў Ячне дзякуючы намаганням вернікаў і клопату настаяцеляў прыгажэла. Народным мастаком з Ружанастока Тадэвушам Мажэйкам былі размаляваны два вялікія фрэскі. Таксама ў 2015 годзе парафія ўзбагацілася на тры званы, якія раней «служылі» ў Яблачынскім манастыры. Таму царквой сёння можна захапляцца. Журналіст «Нівы» Аляксандр Вярбіцкі, які пабываў там 26 ліпеня 2016 года піша: «Ячніцкая царква прыгожа выглядае здалёк, калі яе аб'ёмістыя сінія купалы выдатна ўзбагачаюць тамашні краявід; гэтак жа ўзбагачаюць далягляд і вежы ружанастоцкага касцёла. І ўсярэдзіне царква выглядае вельмі сімпатычна. Тут таксама відаць выклiканае дэмаграфіяй набліжэнне царкоўнага інтэр'ера да касцельнага: з кожнага боку нефа па тры лаўкі фронтам да алтара ды яшчэ і лаўкі пад сценамі. Але найбольшае ўражанне зрабілі на мяне пеўчыя, бо, для прыкладу, „Трысвятое" ў іх выкананні магло б быць аздобай цалкам патрабавальнага канцэрта царкоўнай музыкі». (А. Вярбіцкі, *За Дубровай*, «Ніва», 7.08.2016, № 32).

Каб не страціць таго, што ўдалося супольнымі сіламі пабудаваць, сёння прыхаджанам парафіі трэба падняць чарговы выклік. Купал царквы патрабуе рамонту. На думку айца Ганчарука на рамонт храма патрабуецца каля 60 тысяч злотых. Невялікая парафія не ў змозе назбіраць такую колькасць грошай. Па гэтай прычыне настаяцель прыхода вырашыў ладзіць дабрачынныя мерапрыемствы.

— Хочам сарганізаваць дабрачынны баль. Сам баль абяцае быць вельмі цікавым. Мы будзем прапанаваць шырокае меню, музыку ўжывую — дзякуючы гурту «Server», які не бярэ ганарару за выступ, — кажа айцец Ганчарук. — Усе ўдзельнікі будуць мець магчымасць прыняць удзел у дабрачынным аўкцыёне. Тыя, якія схочуць прыняць удзел у нашым балі, не толькі змогуць пагуляць у добрай кампаніі, але перш за ўсё падтрымаюць нашу царкву.

Дабрачынны баль адбудзецца 27 студзеня ў рэстаране «Na skarpie» ў Дуброве-Беластоцкай. Кошт ад асобы — 110 злотых. Ахвотныя дапамагчы парафіі могуць пералічыць грошы на банкаўскі рахунак: 03 8093 0000 0032 5187 2000 0010 з прыпіскай «Дабрачынны баль», або кантактавацца непасрэдна з арганізатарамі пад нумарам тэлефона 85 712 81 81.

У збор грошай уключыліся і наймалодшыя, якія ў час праваслаўнага Раства, нягледзячы на мароз, весялілі жыхароў навакольных вёсак калядкамі. Усе ахвяраванні прызначаны на рамонт купала.

Як даказваюць фрагменты паасобных артыкулаў, Ячна і яго жыхары ніколі не былі абыякавымі прадстаўнікам беларускай меншасці і праваслаўным Падляшша. Напэўна і гэтым разам не застануцца адны.

Уршуля ШУБЗДА





# Ні «Добры дзень», ні «З Новым годам»...

Як гаварылі вядомыя палкаводцы, вынік бою залежыць не столькі ад якасці зброі і колькасці жаўнераў, колькі ад баявога духу тых, хто выйдзе на поле бітвы. Думаю, што гэты баявы дух, або проста чалавечы настрой, уплывае на сітуацыю не толькі ў ваенных умовах, але і ў паўсядзённым, мірным, ці адносна мірным жыцці.

Калі людзі вясёлыя, жыццярадасныя, упэўненыя ў будучыні, то і ўладзе ўтульна ў сваіх крэслах. Баяцца няма чаго. Ну а калі наадварот, то хіба прычыны для неспакою ўсё ж ёсць. Прынамсі зараз самы час пра гэта падумаць. Больш прыгнечанага настрою перад святкаваннем Новага года, якое яназіраў зараз, я яшчэ не бачыў за ўсё сваё жыццё.

Новы год для жыхароў постсавецкіх краін свята асаблівае. Адно з галоўных, якое ў нас, у Беларусі, неадрыўна звязанае з Калядамі. Новы год акурат прыпадае паміж каталіцкімі і праваслаўнымі Калядамі і шанаваўся прадстаўнікамі ўсіх канфесій, і нават грамадзянамі далёкімі ад рэлігіі. Людзі заўсёды рыхтаваліся да яго загадзя, і святочны настрой адчуваўся ўжо за месяц. Ну а перад самым Новым годам нават віталіся словамі: «З Новым годам!!!». А ў адказ чулі: «З новым шчасцем!».

Што гэта за новае шчасце ніхто асабліва не ведаў, але сэнс не ў гэтым. Людзі проста хацелі верыць у лепшае, і многія нават верылі. І сваёй радасцю і добразычлівасцю спяшаліся падзяліцца з іншымі. У крамах, на вуліцы, у пад'ездах, на святочных мерапрыемствах, на працоўным месцы, паўсюдна гучалі віншаванні ўсім каму можна і ўсе ва ўсіх пыталіся, дзе і як яны будуць сустракаць Новы год.

Яшчэ зусім нядаўна ў Беларусі так і было. Праўда, я ўжо даўно стаў заўважаць, што з кожным годам гэтага святочнага настрою паўбаўлялася, не ўзіраючы на ўсё большыя выдаткі з бюджэту на святочныя мерапрыемствы, салюты, афармленне горада і гірлянды на ёлках.

Ну але так як гэтым годам, мне здаецца, не было ніколі. Хмурыя стомленыя людзі па старой звычцы, але зусім без энтузіязму, куплялі прадукты і шампанскае і з патухлымі позіркамі нервова сунуліся дахаты. Там іх чакаў тэлевізар, які з усіх сіл стараўся пераканаць сваіх гледачоў, што ў іх усё добра. Але яму больш ужо ніхто не верыць.

Ну што б там не расказваў тэлевядучы афіцыйнага тэлеканала, кожны беларус ведае, колькі ён у гэтым годзе дастаў з адкладзенага на чорны дзень, і колькі ён туды паклаў. І таму можа сам прагназаваць: прыблізіўся гэты чорны дзень для яго, ці аддаліўся.

Ну а многія атрымалі і навагоднія віншаванні ў выглядзе патрабаванняў аплаціць падатак на дармаедства. Тады, калі гэты падатак прыдумвалі дзядзькі з добрымі заробкамі, то хлопцам, што не мелі ні заробку, ні працы здавалася, што да ўвядзення гэтага падатку нешта яшчэ зменіцца, сітуацыя неяк паправіцца, нейкая праца знойдзецца, чорная паласа скончыцца, улада адумаецца... Але больш такіх надзей няма. Не змянілася, не папраўлялася, не знайшлася, не скончылася, не адумалася...

Якраз усё наадварот. На радзіме работу знайсці ўсё цяжэй, згубіць усё прасцей, за мяжу патрапіць усё больш немагчыма, раскруціць нейкі свой, хоць які-небудзь дробны бізнес прыраўніваецца да фантастыкі, а спадзяванні на родную дзяржаву сталі адзінай рэччу, якая выклікае смех.

Застаецца толькі выйграць у латарэю, але ўжо на латарэю сродкаў бракуе.

Зрэшты пра дзяржаву. Тут прапагандысты нашай усходняй суседкі засыпалі сеціва паведамленнямі пра тое, што нібыта вядомы астролаг Павел Глоба нібыта прадказаў, што нібыта Беларусь і Казахстан у наступным годзе нібыта папросяцца ў склад Расіі...

Мае да гэтага дачыненне той Глоба ці не, але сутнасць такіх інфармацыйных укідаў зразумелая: падрыхтаваць глебу да анексіі. І дзяржава нават не паспрабавала хоць голасам дзясятага тэлепрапагандыста заверыць сваіх грамадзян перад Новым годам, што яна гэтага не дапусціць...

Ну адкуль таму навагодняму настрою ўзяцца? Вось і ідзе сумны чалавек па горадзе са святочным афармленнем, з прыгожымі ёлкамі і бліскучымі ліхтарамі і ні «Добры дзень» ад яго не чуеш, ні з «Новым годам».

«Хутчэй бы ён скончыўся, той Новы год», — думае сабе чалавек.

Ну а ўладзе трэба добра задумацца пра яго настрой. Бо ён, настрой, як казалі вялікія палкаводцы мінулага, усё і вырашае.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Сіп не бяздзейнічае

У Беларусі выявілі новае радовішча нафты, якое ацэньваецца ў 1,7 млн. тон. Гэтага недастаткова, каб абвясціць дзяржаву другім Кувейтам. З іншага боку, гэта падстава для задавальнення. Расійскі сіп ніяк не адпусціў бы такога прагнага кавалка. Але майце на ўвазе, што гэты птах ненажэрны. Ахвотна глынуў бы ўсю Беларусь, але ў адзін раз не зможа. Амаль не задавіўся значна меншымі Крымам і Данбасам, хаця не выпускае іх з дзюбы, хаця ніяк не можа каўтануць. Украіна яшчэ не ўмерла, і больш за тое, яна памаленьку набірае сілу. Сіп, як сцярвятнік, кормiцца мярцвячынай. Да таго часу, пакуль яго ахвяра дае рады адмахнуцца, сваю дзюбу трымае ад яе далей. Але ніколі не дарує. Скубне тут, драпане там — ён цярплівы — і бывае, што даўядзе сваю ахвяру да знямогі. І тады пачынаецца жратва... Неабавязкова на трупе.

Эканамічны і палітычны ціск Расіі на Беларусь актыўна ўзрастае і зусім нагадвае стратэгію сіпа. Знамянальнае выказванне дарадцы прэзідэнта Пуціна, былога генерала расійскай разведкі Леаніда Рашэтнікава, які адкрыта адмаўляе ў публічных заявах, самабытнасць мовы і беларускага народа, намякаючы таксама пра тое, што беларуская ўлады вядуць завельмі незалежную палітыку. Беларусі гэта не забівае, але паступова аслабляе. За яго словамі стаяць факты. Колькасць расійскалюбівых асацыяцый у Беларусі пацікаў спансараваных Крамлём расце трывожнымі тэмпамі. Іх дыяпазон шырокі, ад Беларускага грамадскага аб'яднання «Русь», ваенна-патрыятычнага клуба «Казацкі Спас». Усё большай папулярнасцю карыстаюцца таксама ваенізаваныя лагеры для прасоўвання ідэі «рускага міру», часта арганізаваныя праваслаўным духавенствам. Незразумелымі ў святле гэтых фактаў з'яўляюцца дзеянні польскіх улад, плануючых зачыніць беларускамоўнае Радыё Рацыя і тэлеканал «Белсат» — апошнія бастыёны незалежнай беларушчыны для ўсіх беларусаў, якія мараць аб суверэннай і дэмакратычнай Беларусі.

2017 год можа стаць пераломным для беларускага суверэнітэту — ужо моцна ссечанага. Ён заснаваны на эканамічнай незалежнасці, і гэта моцна напружвае залежнасць беларускай эканомікі ад расійскай. Ключавая нафта, набытая ў расейцаў на 20% танней, чым сусветныя цэны, якая пасля перапрацоўкі ў бензін на беларускіх НПЗ і прадавана на Захад паводле камерцыйнага курсу, з'яўляецца асноўнай крыніцай дзяржаўных даходаў. Расія, падымаючы свае цэны або абмяжоўваючы пастаўкі, што паступова робіць, абяссільвае беларускі і гадамі вельмі няўстойлівы бюджэт. Ды штосьць за штосьць. Язычком ад вагаў з'яўляецца супрацоў Аляксандра Лукашэнкі перад адкрыццём Бабруйска для расійскай арміі. Нафта або Бабруйск — якая д'ябальская альтэрнатыва! А нафта гэта стабільны стан бюджэту дзяржавы і адкрытая перспектыва далейшай улады цяперашняга прэзідэнта... і тое, што я пішу не без унутранага здзіўлення, таксама незалежнасць Беларусі. Чаму гаворка пра той Бабруйск? Па словах пуцінскіх генералаў, былў бы ён самым зручным месцам для ўстаноўкі там моцнага самалётна-ракетнага блока, тактычнай задачай якога была б наступальна-абаронная прысутнасць у выпадку вайны з Захадам. Але не ў гэтым справа, што Бабруйск стаў бы ў гэтым выпадку мэтай для такіх самых падраздзяленняў НАТА. Нягледзячы на ваенны саюз з Расіяй, Беларусь рашуча падкрэслівае сваю нейтральную пазіцыю ў адносінах да Захаду. Згода на прысутнасць расійскай арміі на сваёй уласнай тэрыторыі азначала б канец гэтай палітычна пагаджальнай стратэгіі. Перш за ўсё яна ўяўляла б сабой сур'ёзную пагрозу для суверэнітэту дзяржавы. Так з псіхалагічнага пункту гледжання, як і рэальнага. Чужыя самалёты і ракеты, гэта адно. Другое — ваенная інфраструктура, і, нарэшце, сервіс, тэхнічная база і ахова, гэта значыць, людзі. Колькі з іх было б там — некалькі сотняў або больш дзясятка тысяч салдат, гатовых выканаць кожны загад? І колькі палітрукоў, рассейваючых сярод беларусаў русафільскую, то-бок, антыбеларускую прапаганду?

Расійскі сіп узняў ужо сваю дзюбу над Бабруйскам, але сочыць за ўразлівым падбрушшам беларускай эканомікі. Ёсць ім расійскі рынак адкрыты або закрыты для беларускай прадукцыі. У цяперашні час расійскі бок апускае больш і больш нізкія мытныя бар'еры. Сцярвятнік не прастойвае. Падскубвае сваю ахвяру тут, паддзёўбвае там... Ці Беларусь яшчэ жыве?

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Святочны шпацыр

Ну і дачакаліся! Раджаство Хрыстовае з такім марозам і снегам. На тэрмометры ў маіх бацькоў слупок ртуці затрымаўся на мінус дваццаці пяці градусах. Прытым бязветранае і сонечнае надвор'е. Даўно не было чагосьці такога. Нягледзячы на мароз, у суботні ранак накіраваўся я ў Белавежскую пушчу на паўтарагадзінны шпацыр. Эстэтычныя ўражанні незабыўныя. Скупаныя ў залатых, сонечных промнях вершаліны дрэў адбіваюцца ад белага-белага снегу. А неба — сіняе-сіняе. Цішыня і дастойнасць. У паветры не чуваць аніякага птушынага крыку. Неяк так дзіўна. Але пушча жыве сваім жыццём. Па снезе відаць, што перада мною тут перабягалі лясныя жывёлы. Не вялікі з мяне знаток звярыных слядоў, але тропы зуброў і аленяў красаваліся на дарожках. Не сустрэў я аднак лоб у лоб ані звера ў лесе, ані чалавека на вуліцы. Бязмежная прастора пушчы і людской пустэчы пануе ў навакольных вёсках. Дзень перад Калядамі пахавалі нашу свайчку з боку мамінай сям'і. Ідучы, думаю пра сваіх аднавяскоўцаў, пра іхнія пагаворкі, паходкі, усмешкі. Пра тых, якія ўжо адышлі і тых, што яшчэ дажываюць свой век. Сонца і мароз даюць пачуццё лагоднасці і цеплыні. Заўсёды добра вяртацца ў бацькоўскі дом.

Перад вачыма ўзгадваюцца таксама малюнкі, калі больш-менш у такое надвор'е былі мы калядніжамі і некалькі гадзін вандравалі з «гвяздай» па маленькіх пушчанскіх вёсках. Ніхто нас тады не падвозіў, таму час ад часу душа ў пяткі ўцякала, калі ноччу брылі мы праз лясныя дарожкі. З сабой у дарогу бралі мы заўсёды ліхтарыкі, але тадышнія батарэі на марозе хутка разраджаліся і не было з іх аніякай карысці ў пушчанскай цемры. Шпацыруючы, я прыблізна прыкінуў колькі кіламетраў мы праходзілі, славячы Хрыста. Як не круці дзесяць-дванаццаць кіламетраў марознага калядавання было ў нашых нагах і на шчоках. І з кожным кіламетрам вялікая «гвязда» станавілася штораз больш цяжэйшай. Аднак згодна і дружна мяняліся нясучыя. Ну, вядома, старэйшыя неслі даўжэй. Адна не менш яшчэ важная дэталь колішняга калядавання — усе мы спявалі пад вокнамі, рэдка хто запрашаў у хату. Запрашэнне ў хату абазначала вялікую радасць. Па-першае, можна было адтаяць і крыху разагрэцца. Па-другое, у такіх дамах былі акурат гасціны і гаспадары частавалі нас пірожным, цукеркамі і аранжадай. Старэйшым хлопцам налівалі часта па кілішку. Радасць калядоўшчыкаў з такіх хатніх візітаў успаміналася цягам года да чарговага Раджаства Хрыстовага. Былі аднак і такія гаспадары, што тушылі святло і не хацелі нас прымаць. Мы нават між сабою адзначалі і ішлі ў заклад, хто нас прыме, а хто не.

Напэўна сёлетнія святы надоўга застануцца ў памяці дарослых і дзяцей. Некаторыя ўпершыню адчулі і спазналі, што такое сапраўдная зіма. Неверагодная прыгажосць краявідаў далася ў знакі таксама ўсім аўтамабілістам, якія ў святочны перыяд рулілі да сваіх сямейнікаў. Галалёд на дарогах не дазваляў імкнуцца з дазволенай хуткасцю. У пятніцу і суботу не бачыў я, каб адказныя службы, не шкадуючы, сыпанулі пяском у такой сітуацыі. Сама падрыхтоўка машыны да паездкі была таксама не абы-якім выклікам. Замарожаныя дзверы, лёдам залітыя шыбы, праблемы з рухавіком выводзілі з добрага настрою нават самых вопытных шафёраў. Але перамогшы ўсе гэтыя перашкоды, можна было за святочным ужо сталом ізноў вярнуцца да адвечных тэм падляшска-духоўнай прасторы. Чые святы больш справядлівыя: каталіцкія ці праваслаўныя? Чые прыгажэйшыя Раджаство і Вялікдзень? Паводле якога календара святкаваць разам святы, не крыўдзячы нікога. Размовы такога і падобнага кшталту вядуцца здаўна на нашай, прыгожай зямельцы і на добрую справу можна ўжо іх прыпісаць да народнай, вуснай, хрысціянскай спадчыны гэтага куточка свету. І неяк добра і сардэчна становіцца на душы, калі ты з роднымі радуешся і нараджэнню Бога-дзіцяці, і сямейнай сустрэчы. Бо ж гэтая гарманічная атмасфера з'яўляецца зарадам для нашага чалавечага існавання і перамагання чарговых, зямельных выклікаў. А гэта таму, што больш за дзве тысячы гадоў таму «нова радасць стала, якой не бывала». А зоркі ў сёлетнюю калядную ноч зззялі ўсяму свету сваёй прыгажосцю і надзеяй.

**Яўген ВАПА**

# Мастацтва Тамары Кердалевіч

**Тамара Кердалевіч ужо сорак гадоў працуе ў галіне культуры ў Чаромсе і каля трыццаці гадоў стварае мастацкія працы — жывапіс, пастэльныя работы, рысунак, батык і графіку. Працы мастачкі з Чаромхі можна было пабачыць, між іншым, на Аглядах непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі, на якіх займала прызавыя месцы. Аднак толькі цяпер у рамках праекта «Беларускі алфавіт мастацтва» ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы была арганізавана першая персанальная выстава Тамары Кердалевіч. Яе адкрыццё адбылося 28 снежня 2016 года.**



— Да сіх пор ніхто не арганізаваў персанальнай выставы работ Тамары Кердалевіч. Мы рады, што на прыкладзе мастачкі з Чаромхі можам паказаць працы выкананыя рознымі тэхнікамі. Нам найбольш блізкія яе карціны з падляшскімі краявідамі, напрыклад, гарбузы на загарадзі Дашоў. Захапляюць нас таксама партрэты, батыкі, — сказаў дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк.

— Тамара Кердалевіч стала вядомай на Гайнаўшчыне і па-за нашым рэгіёнам якраз з-за прац выкананых тэхнікай батыку, мастацтва малявання воскам. Яе батыкі захапляюць незвычайнай насычанасцю колераў і прастатой, а калі праз тканіну яе прац пранікае святло, тады можна адкрыць сапраўдную прыгожасць батыку, які рэдка выконваецца ў нас на Падляшшы. Займаецца спадарыня Кердалевіч мастацтвам ад дзесяцігоддзяў і карыстаецца такімі мастацкімі тэхнікамі, як алей, акрыл, акварэль, пастэль, якая спалучае якасці рысунку і жывапісу. У творчасці спадарыні Тамары прабіваецца імкненне да натуральнай прыгожасці, — гаварыла Агнешка Ціханюк, арганізатарка выставы, на якой прэзентуецца таксама ікона, напісаная спадарыняй Тамарай.

— Выкананне працы ў тэхніцы батыку займае многа часу, але гэта прывабнае, бо рэзультат работы, калі фарбы з воскам падаграваюцца да высокай тэмпературы, да канца невядомы і гэта з'яўляецца незвычайным. Часам працую доўга, цэлы дзень, многа малюю ночу, — заявіла мастачка Тамара Кердалевіч.

Увагу публікі прыцягнулі партрэты сваячак і знаёмых мастачкі. Партрэт з бабулькай быў надрукаваны на першай старонцы каталога выставы мастацтва Тамары Кердалевіч, што ўвайшоў у састаў «Слоўніка беларускіх мастакоў». Выдаецца гэтая серыя ў рамках рэалізаванага Гайнаўскім белмузеем праекта «Беларускі алфавіт мастацтва». Гайнаўскі фатограф Уладзіслаў Завадскі пахваліў карціны спадарыні Тамары з краявідамі Гайнаўшчыны. Жанчыны захапляліся прыгожымі кветкамі на карцінах і батыках. Спадарыня Кердалевіч звярнула ўвагу на карціны, якія паказваюць прыгожасць Крыма і Харватыі. Алейныя карціны, акварэлі і пастэльныя працы, якіх было на выставе найбольш, выконваліся ў розным часе. Аднак найбольш работ мастачка выканала апошнімі гадамі, калі з 2013 года займалася ў Майстэрні мастацкіх тэхнік у Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы.

— Спадарыню Тамару Кердалевіч у нашай майстэрні я вучыў выконваць мастацкія працы ў розных тэхніках, але мяне спадарыня Тамара вучыла батыку. Тамара Кердалевіч цэлы час шукае сваю дарогу ў мастацтве. Мне найбольш падабаюцца яе партрэты і графіка, на якіх найлепш выяўляецца талент мастачкі, — сказаў мастак Данель Грамацкі, які вядзе заняткі ў Гайнаўскім белмузеі ў рамках дзейнасці Майстэрні мастацкіх тэхнік. Спадарыня Тамара тут навучылася выконваць графіку, яе разнавіднасць — манатыпію і ўдасканаліла свае ўменасці па выкананні жывапісу, рысунку, пастэльных і прац.

— У музейнай майстэрні я займаюся ўжо некалькі гадоў разам з Тамарай Кердалевіч і бачу рост яе мастацкіх уменасцей. Я сам не выконваю батыку, але звярнуў увагу на прыгожую расліннасць, выкананую гэтай тэхнікай, — сказаў Міраслаў Хіліманюк, які летась атрымаў узнагароду ў катэгорыі жывапісу на Аглядзе непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі.

— Мы прыехалі сюды з Чаромхі, каб паглядзець мастацтва Тамары і мы захоплены яе творчасцю, — сказала сяброўка мастачкі Зінаіда Андраюк.

— Я захоплены вашымі прыгожымі мастацкімі работамі. Калі выстава перастане працаваць у музеі, будзем арганізаваць выставу вашых прац у гмінным управе, каб нашы працаўнікі і радныя маглі паглядзець прыгожае мастацтва, — заявіў войт Чаромхаўскай гміны Міхал



Асаблівую цікавасць выклікалі батыкі Тамары Кердалевіч (вісяць на першым плане)

Врублеўскі, які павіншаваў спадарыню Тамару з адкрыццём багатай выставы, якая будзе прэзэнтавацца ў белмузеі да канца студзеня 2017 года.

Тамара Кердалевіч (1956 год нараджэння) падчас мерапрыемства размаўляла з журналістамі на беларускай літаратурнай мове, якой вучылася ў Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы і якой карыстаецца працуючы дзесяцігоддзямі ў галіне культуры. Спадарыня Тамара — выпускніца Народнага ўніверсітэта ў Радаўніцы. Спачатку працавала ў Дзіцячым садку і Клубе культуры чыгуначнікаў у Чаромсе. У 1997 годзе стала працаваць у Гмінным асяродку культуры ў Чаромсе, спачатку як культурна-асветны інструктар, а пасля цягам дзесяці гадоў працавала дырэктарам ГАК у Чаромсе, прамуючы там, між іншым, беларускую культуру. Пазней спадарыня Кердалевіч кіравала працай Гміннай публічнай бібліятэкі ў Чаромсе, а зараз займаецца мастацкай адукацыяй дзетак і дарослых — вядзе Мастацка-рукадзельную майстэрню ў ГАК у Чаромсе. У 2016 годзе арганізавала жывапісны пленэр у Чаромсе. Першым настаўнікам жывапісу Тамары Кердалевіч быў мастак Сяргей Смык з Чаромхі, а пазней спадарыня Тамара разгортвала свой мастацкі талент як самавучка, карыстаючыся падказкамі мастакоў. Удзельнічае яна таксама ў мастацкіх пленэрах і 20 гадоў з'яўляецца актыўным членам Аб'яднання любіцеляў народнай культуры ў Чаромсе.

— Пачала я маляваць і рысаваць у васьмідзясятых гадах і не пакідаю гэтага занятку па сённяшні час, бо вельмі люблю маляваць, рысаваць, выконваць пастэльныя работы і батыкі. Першыя свае працы я паказала публічна ў 1988 годзе падчас Аматарскіх мастацкіх сустрэч чыгуначнікаў у Варшаве і там я атрымала другую ўзнагароду. У 1992 годзе свае працы я завезла на I Агляд непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі, арганізаваны Гайнаўскім домам культуры, дзе атрымала вылучэнне. У 1997 годзе на гэтым аглядзе атрымала я ўзнагароду другой ступені, а з 2001 года я ўжо пастаянна прымаю ўдзел у гайнаўскім аглядзе непрафесійнага мастацтва і атрымліваю ўзнагароды і вылучэнні, — распавяла Тамара Кердалевіч, якая за дзейнасць у галіне культуры была ўзнагароджана Сярэбранай адзнакай «Выдатны чыгуначнік», Залатой ганаровай адзнакай Польскага саюза пенсіянераў і інвалідаў і Адзнакай «Заслужаны дзеяч культуры». Працы спадарыні Кердалевіч прэзентаваліся падчас аглядаў аматарскай мастацкай творчасці Падляшскага ваяводства ў Беластоку і на іншых калектыўных выставах. Знаходзяцца яны зараз у прыватных і дзяржаўных калекцыях у Нямеччыне і Польшчы — у Варшаве, Седльцах, Крынках, Чаромсе, Беластоку (Ваяводскі асяродак анімацыі культуры) і Гайнаўцы (Беларускі музей). Да карціны Тамары Кердалевіч з марскім краявідам, якая была паказана падчас Агульнапольскіх мастацкіх прэзентацый чыгуначнікаў у Кракаве, верш напісаў і зачытаў яго ў белмузеі Мікола Шатыловіч, чыгуначнік з Чаромхі-Вёскі.

— Вучыўся я беларускай літаратурнай мове ў пачатковай школе і нават адзін са сваіх вершаў «Зімой у Чаромсе» даслаў я ў моладасці ў «Ніву». У газеце паявілася паметка, што будзе ён надрукаваны ў «Парнасіку». Я тады пайшоў у армію і не ведаю, як з гэтым было, але людзям, якія чытаюць «Ніву», вядомы мой дзядзька, дваюрадны брат майго бацькі, беларускі паэт Дзмітрый Шатыловіч. Я зараз падтрымліваю кантакт з яго сынам, які дасылае мне кніжкі дзядзькі Дзмітрыя, — сказаў Мікола Шатыловіч, які высока цэніць майстэрства Тамары Кердалевіч.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

## Заблудаўская дэмаграфія

Заблудаўская гміна знаходзіцца па-суседску з Бельскай, Гарадоцкай, Юхнавецкай, Міхалоўскай, Нарваўскай і Супрасльскай гмінамі. У гміне пражывае 9150 чалавек. Найбольш у горадзе Заблудаве — 2 430 асоб. Гміна займае плошчу ў 340 квадратных кіламетраў, гэта 12% усёй плошчы Беластоцкага павета. Шчыльнасць насялення — 27 чалавек на адзін квадратны кіламетр. На 100 мужчын прыпадае столькі ж сама — 100 жанчын. Ва ўзроставай групе 85 і больш гадоў жанчын чатыры разы больш чымсьці мужчын. У Заблудаўскай гміне сельскагаспадарчыя ўгоддзі займаюць 62% усёй тэрыторыі гміны ды лясы — 31% (яны ў Надлясніцтве Жэдня). Важнейшыя рэкі — Нарва і Рудня. Апошняя з іх перапплывае цераз горад Заблудаў. У гміне пяць цэркваў і адзін касцёл. Найбольшыя вёскі ў гміне — Дабжынёўка, Кур'яны, Рафалоўка, Рыбалы, Галіцкае, Зверкі, Крыніцкія, Пратасы, Скрыбічы, Лубнікі, Паўлы, Фальваркі-Малыя, Загрушаны, Фальваркі-Тыльвіцкія, Камёнка, Беласточак, Рэпнікі, Фальваркі-Вялікія і Кудрычы.

Да сярэдніх вёсак належаць Кухароўка, Навасады, Пасынкі, Баброва, Целушкі, Козлікі, Кавалёўцы, Жукі, Астраўкі, Давідавічы, Гнецюкі, Малынка, Сольнікі, Сеські, Заязерцы, Краснае і Канюкі. Самыя малыя пасяленні гэта Міневічы, Слямянка, Лук'яны, Тэадорава, Рудніца, Багданец, Баравікі і Касцюкоўка. У нябыт адышлі Юзэфова і Рудніца.

Лік жыхароў Заблудаўскай гміны паменшаў, між іншым, у Дабжынёўцы і ў Камёнцы, а пабольшаў у Рафалоўцы, Кур'янах, Беласточку, Заблудаве-Калёніі, Загрушанах, Кудрычах, Лубніках і ў Пратасах.

У 2016 годзе ў Заблудаўскай гміне „залатыя вяселлі" згулялі 22 шлюбныя пары. У мінулым годзе ў горадзе і ў вёсках памерлі 100 чалавек.

## Новыя кватэры

У Беластоку ёсць вялікае запатрабаванне на жылыя кватэры. І дзе як дзе, але тут — у ваяводскай метраполіі — ставяць новыя жылыя будынкі. У мінулым годзе здалі ў карыстанне 69 жылых кватэр у блоку па вуліцы Камісіі нацыянальнай адукацыі на пасёлку Бацечкі. Гэты блок будавалі ад ліпеня 2015 года. Кошт гэтай інвестыцыі склаў суму ў 13 мільёнаў злотых. У гэтым шматсямейным будынку 69 кватэр велічынёй ад 36 да 64 квадратных метраў жылплошчы.

У трэцім квартале 2018 года на гэтым пасёлку здадуць у карыстанне — ёсць такія планы — наступны невялікі будынак на 24 жылыя кватэры, апрача таго восем гаражоў і стаянку для аўтамабіляў ды ў другім квартале 2019 года — блок з 38 кватэрамі і стаянку на 38 аўтамабіляў. На пасёлку Бацечкі па вуліцы Камісіі нацыянальнай адукацыі будзе пабудаваных шэсць камунальных жылых блокаў з 322 кватэрамі, чатырнаццаць паслуговых пунктаў і шаснаццаць гаражоў.

## Конкурс

Арганізатары — Гмінная ўправа, Гмінны асяродак культуры (ГАК) і Комплекс школ у Нараўцы Гайнаўскага павета запрашаюць каляднікаў да конкурсу пад лозунгам «Калядуйма разам», які адбудзецца 20 студзеня гэтага года ў кіназале ГАК па вуліцы Новай. Ладзяць яны гэтае мерапрыемства ўжо дзясяты год.

Конкурс пачнецца а гадзіне 11-ай для дашкольнікаў і школьнікаў і а гадзіне 15.30 — для старэйшых каляднікаў. У праграме імпрэзы прадбачваецца выступ Маладзёжнага танцавальнага калектыву «Ладушкі» з Беларусі.

Заяўкі ахвотных прыняць удзел у конкурсе «Калядуйма разам» падаваць у нараўчанскі ГАК, можна і патэлефанаваць на нумар 85 685 80 34, да 17 студзеня г. г. **(яц)**

# Пра дзеда — вялікага патрыёта



Альбін Сахарка

**Войтэк — прыгожы гімназіст. Паўсюль яго поўна — міністрант у касцёле, чорцік на ясельцах, гукааператар на школьных мерапрыемствах. Заўсёды ў цэнтры ўвагі. Яго галоўная навагодняя пастанова — пабольшыць колькасць трэніровак на мясцовым «паўэр джыме». Толькі не ведаю навошта яму гэта, ён жа марыць пра кар'еру святара. Марк — хлопец надта патрыятычны, амаль пры кожнай нашай сустрэчы падкрэслівае важнасць нацыянальнай сімволікі. Верыць, што белы арол на грудзях абараняе яго ад усялякай бяды, прымушае быць добрым і справядлівым. Модныя цяпер сімвалы Змагарнай Польшчы віднеюць не толькі на яго вопратцы, але таксама на смартфоне. Нават прычоска ў яго патрыятычная. Запытаны пра сімволіку знака Змагарнай Польшчы тлумачыць, што гэта ў памяць жаўнераў 1944 года. Зараз прапануе мне таксама чытаць успаміны пра, як кажа, вялікага патрыёта — дзеда Альбіна.**

У час адной з нашых размоў пра патрыятызм прапаную яму апрануцца ў кашульку з літарамі «П» і адвернутай дагары нагамі польскай «W». Мае гэта абазначаць Польшчу Міласэрную, мілуючую. На святочнай картцы пішу жадаю «... навучыцца адказваць дабром на зло»... далучаю іконку Уладзімірскай Божай Маці, якая, можна сказаць, сама ўвайшла ў адрасаваны яму канверцік.

Праўду кажучы, я баялася чытаць падараваныя мне ўспаміны, падазраваўшы, што іх герою не было па дарозе з праваслаўнымі. На шчасце памылілася і засталася з думкай, што мой гімназіст незнаёмы з тэкстам прапанаваных мне ўспамінаў, хаця на вокладцы падпісаўся быццам аўтар. Аказваецца, дзед Альбін здабываў Берлін разам са сваім кампаньёнам, пазнейшым прэзідэнтам Войцехам Ярузельскім, а вярнуўшыся з вайны ўзяў сабе праваслаўную жонку.

Ваенны лёс дзеда Альбіна варты асаблівай увагі. Гэта гісторыя чалавека польска-беларускага памежжа, створаная на аснове ўспамінаў сем'яў Сахаркаў, Белаблоцкіх, Борысаў, Маліцкіх і Севаст'яновічаў.

Альбін Сахарка быў уражлівым, адданым сваёй вёсцы чалавекам. Нарадзіўся ў 1919 годзе ў Залессі на Гродзеншчыне, сённяя Сакольскага павета. Яго нашчадкі зберагаюць, быццам святыню, крохкія кускі пажаўцелай паперы з вершамі запісанымі алоўкам.



Альбін Сахарка з жонкай Яўгеніяй

Boże Ojcze coś jest w Niebie
Zwróć swe oczy w stronę tą.
Pozwól, pozwól, proszę Ciebie,
Bym mógł ujrzeć chatę swą.
By pracować na swej ziemi,
Tak jak dawniej szereg lat.
Aby cieszyć się ze swymi
Których teraz jest mi brak.

Напісаў гэта будучы на прымусовай працы за Уралам. Папаў там па загадзе Сталіна разам з палякамі, беларусамі, украінцамі, эстонцамі і латышамі — жаўнерамі рабочага батальёна Чырвонай Арміі. Іх абавязкам была пабудова прамысловай інфраструктуры СССР.

Працавалі ў тэмпературы сорак градусаў ніжэй нуля. Валёнкі аблівалі вадой. Лёд ізаляваў цяпло. Вярнуўшыся з працы ва ўласнаручна выкапаную зямлянку, гэты лёд абівалі. Харчаваліся бульбай, якую таксама палівалі вадой, каб не замерзла. Вымалі яе, разбіваючы тоўстую на адзін метр лядовую шкарлупіну. Прыціснуты голадам Альбін аднойчы ўкраў жменьку мукі ад праязджаючага міма Казаха. З'еў яе сырую.

Быў 1942 год. Залессе знаходзілася пад нямецкай акупацыяй. У вясковай святліцы адкрылі краму з прадуктамі. Чэргі былі настолькі вялікія, што прадавалі тавар праз акно. Людзям пагражала вывазка на працу ў Нямеччыну. Пакліканыя туды, ішлі ў Сідру, а потым нямецкімі аўтамабілямі пераязджалі ў Гародню. Старэйшая сястра Альбіна, Яся, папала да добрай нямецкай сям'і. Не галадала, а яшчэ пасылала ежу малодшай сястры Браніславе, якую адаслалі на працу ў фабрыку амуніцыі. Знайсці адрас сястры дапамаглі Ясі нямецкія гаспадары.

Яшчэ перад вайной Альбін пасябраваў з Яўгеніяй Борыс з суседніх Мяленкаўцаў. Яе хату немцы спалілі ў 1943 годзе, а бацьку расстралялі. Немцы звязалі калючым дротам шасцярых мужчын, у тым ліку няшчаснага бацьку. Вывезлі іх у лес непадалёк Хрыстафорава. Двух з іх уволілі, каб выкапалі яму. Уцяклі. Астатніх чацвярых закапалі ў яму. Гаварылі, што закапалі жыўцом.

У ліпені 1943 года Альбіна Сахарку пасылаюць у Першую дывізію пяхоты імя Тадэвуша Касцюшкі пад камандаваннем Зыгмунта Берлінга. Прысягу даў 15 ліпеня, у гадавіну Грунвальдскай бітвы. Ваяваў пад Леніна пад камандай генерала Васілія Гордава разам з залешанцам Юзэфам Дорашам. У студзені 1945 года вызваляў Варшаву разам з будучым прэзідэнтам Войцехам Вітольдам Ярузельскім. Быў на Вале Паморскім, над Одрай, Нысай, Балтыкай і ў Берліне. Атрымаў шмат медалёў ад польскай і савецкай арміі.

На бацькаўшчыну пачаў вяртацца 9 мая 1945 года. У хаце якраз выпляталі кошыкі на бульбу. Застукаў у дзверы. Сястра Стася не пазнала яго голасу, але дзверы адчыніла. Цешылася сям'я і ўся вёска. За ваенныя заслугі дзяржава хацела яго ўзнагародзіць панямецкім гаспадарствам, працай на мясазаводзе. Адмовіўся. Найважнейшай заставалася родная вёска. За гэта на некалькі дзён папаў у сакольскі арышт.

У 1948 годзе ўзяў шлюб з любімай і заўсёды яму вернай Яўгеніяй Борыс. Пайшоў у прымакі ў Мяленкаўцы. Там нарадзіўся іх першы сын Чэслаў. Пахрысцілі яго ў Новым Двары, таму што ксёндз у Залессі не пагадзіўся на праваслаўную хрышчоную Елену Борыс. Народжаную ў 1954 годзе дачку Ірэну пахрысцілі ўжо ў Залессі. Хрышчонымі былі Стася Сахарка і Уладзімір Борыс. Альбін памёр у 1996 годзе. Пахавалі яго на могілкыу ў родным Залессі. Жаль, што не паспеў выхаваць сваіх праўнукаў.

Іаанна ЧАБАН

РОДАМ З БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

# Ён ствараў непакорнага бунтара

**У сваёй кнізе „З Беластоцкай зямлі” (Беласток 2008, с. 187-188) я ўпершыню прыгадаў пра беларускага мастака, рэзчыка па дрэве, грамадска-культурнага дзеяча Уладзіміра Мацюка (1902-1989). Гэта была толькі невялікая згадка пра таленавітага беларуса з Беластока. Але пошукі працягваліся і за гэты час мне ўдалося адшукаць шмат новых звестак пра чалавека, які любіў мастацтва і пра якога, на жаль, мала хто сёння ведае, а тым больш яго прыгадвае.**





Уладзімір Мацюк з дачкою

Уладзімір Мацюк нарадзіўся 2 чэрвеня 1902 года ў Беластоку ў сям'і беларускага фельчара Язэпа (Іосіфа) Мацюка. Язэп Мацюк быў родам з вёскі Гернікі Слонімскага павета. У пачатку ХХ стагоддзя ён жыў і працаваў у Беластоку. Там малады фельчар пазнаёміўся з дзяўчынай Людмілай, якая была са збяднелага роду Антыноравічаў з Наракі. Людміла і Язэп пакахалі адзін аднаго, пажаніліся і шчаслівыя жылі ў Беластоку. Хутка ў іх нарадзілася пяцёра дзяцей, Валодзя па ліку быў трэцім.

Але заставацца шчаслівымі беларускай сям'і перашкодзіла Першая сусветная вайна і бежанства. Іосіфа Мацюка мабілізавалі ў расійскае войска і накіравалі працаваць эпідэміялагічным фельчарам у адзін з земскіх шпіталяў Падольскай губерні, які знаходзіўся каля самай лініі фронту. Але ў 1916 годзе ён захварэў на тыф, прыехаў да сям'і ў горад Калуга, дзе хутка памёр. Менавіта ў Калугу ў гэты час была з Беластока эвакуіравана Людміла Мацюк з дзецьмі. І на яе плечы ляглі ўсе сямейныя клопаты.

З маленства ў братоў Аляксандра і Уладзіміра Мацюкоў выявіліся здольнасці да малявання. Таму лепшым падарункам для братоў заўсёды былі пэндзлікі і фарбы. Валодзя наведваў гурток выяўленчага мастацтва. А для першай выставы ў гуртку ён выразаў з дрэва фігурку хлопчыка, які кідае камень.

У Калузе Уладзімір Мацюк пайшоў у школу. Фізіку ў іх класе выкладаў Канстанцін Цыялкоўскі — рускі і савецкі вынаходнік, заснавальнік тэарэтычнай касманаўтыкі. Вельмі часта пра Цыялкоўскага любіў распавядаць Уладзімір Мацюк. Ён казаў, што ў памяці Цыялкоўскі застаўся дзіўнаватым чалавекам. Да яго вучні прыходзілі дамоў, дзе ён ім паказваў розныя канструкцыі, распавядаў пра сваё бачанне Бога. Школьнікі дапамагалі яму, насілі ў гарадскі сад абсталяванне для дэманстрацыі доследаў, выконвалі іншыя заданні свайго настаўніка.

У 1919 годзе Уладзімір Мацюк запісаўся на завочныя курсы пры Калужскай мастацкай акадэміі. Ён займаўся на завочных курсах і адначасова вучыўся ў школе. А праз два гады скончыў школу і быў прызваны на гадавыя чырвонаармейскія курсы. У гэты час у Расіі ішла грамадзянская вайна. Жыць там было вельмі цяжка. Таму сям'я вырашыла вярнуцца на Бацькаўшчыну. Але ўсім адразу зрабіць гэта не было магчымасці, таму на радзіму паехаў пакуль адзін Уладзімір. Вясной 1924 года ён перасек мяжу і апынуўся ў Заходняй Беларусі, якая ўжо знаходзілася пад Польшчай. Прыехаўшы на радзіму бацькі, Мацюк хутка вырашае вярнуцца зноў у Калугу. Але яго арыштоўваюць на мяжы і ён некалькі месяцаў праводзіць у польскай турме.

Сустрэцца з маці і з роднымі братамі і сёстрамі Уладзімір Мацюк змог толькі пасля 1939 года. Ён пасяліўся ў Дзятлаве на Гарадзеншчыне, куды на пастаяннае месца жыхарства да яго прыехала і старэйшая сястра Вольга. У Дзятлаве спадар Мацюк і пражыў усё сваё астатняе жыццё.

У 1920-1930-я гады юнак з Беластока ў Дзятлаве пасеў ажаніцца з Яўгеніяй Развазскай і паслужыць у 79-м польскім пяхотным палку ў Слоніме. Але жыццё пры Польшчы было няпростым. Спачатку сям'я Уладзіміра і Яўгеніі Мацюк здымала два пакоі ў адным з дамоў у цэнтры Дзятлава. А ў другой палове 1930-х гадоў ім удалося купіць маленькі кавалачак зямлі па вуліцы Легіянераў (цяпер гэта вуліца Чырвонаармейская — С. Ч.) і пабудаваць у Дзятлаве свой дом.

Калі на Дзятлаўшчыну прыйшла савецкая ўлада, Уладзімір Мацюк працаваў загадчыкам базы ў райспажывсаюзе, а ў вольны час захапляўся разьбой па дрэве. Летам 1941 года Баранавіцкі абласны Дом народнай творчасці арганізаваў экскурсію на выставу ў Мінск для лепшых скульптараў, рэзчыкаў і інкрустатараў вобласці. Захаваўся запыт у міліцыю з просьбай выдаць пропуск у горад Мінск майстру-рэзчыку па дрэве У. Мацюку, датаваны 20-м чэрвенем 1941года. Але экскурсія не адбылася, бо праз два дні пачалася вайна.

У гады вайны сям'я Уладзіміра Мацюка жыве то ў Дзятлаве, то на хутары Гнаінскі ў сваякоў, то проста ў лесе. І шмат прац, якія захоўваліся ў хаце мастака ў Дзятлаве, згубіліся ці іх проста ўкралі. Ратавалі і кармілі сям'ю „дзеравяшкі” — абутак з дрэва, які рабіў Уладзімір падчас вайны. Іх набывалі землякі.

Пасля вайны Уладзімір Мацюк уладкаваўся на працу мастацкім кіраўніком Дзятлаўскага раённага Дома культуры і адпрацаваў там усё сваё жыццё. Ён арганізаваў драматычны гурток і ставіў спектаклі. Напрыклад, спектакль „Паўлінка” па п'есе Янкі Купалы ў 1952 годзе заняў першае месца на Гарадзенскім абласным конкурсе мастацкай самадзейнасці і быў нават паказаны ў Мінску. Кіраўнік тэатральнага гуртка сам быў і рэжысёрам, і акцёрам, і мастаком, і дэкаратарам, і грымёрам, рыхтаваў эскізы касцюмаў да спектакляў. Але галоўным яго захапленнем заставалася разьба па дрэве.

У лістападзе 1945 года працы мастака „Начное”, „Дудар” і „Данясенне” упершыню былі паказаны на агульнабеларускай выставе майстроў народнай творчасці ў Мінску. За барэльеф „Данясенне” Мацюк атрымаў другую прэмію ў конкурсе на лепшы твор на тэму „Беларусь у перыяд Вялікай Айчыннай вайны”. Мастак пастаянна ўдзельнічае ў розных абласных, рэспубліканскіх і ўсесаюзных выставах. На выставе народнага выяўленчага мастацтва ў 1948 годзе ў Маскве Уладзімір Мацюк атрымлівае другую прэмію за скульптурныя працы „Тры пакаленні ў барацьбе за Радзіму” і „Пастух-сувязіст” („Дудар”). А Ленінградскі музей этнаграфіі тады купіў у яго некалькі скульптур і наладзіў з мастаком творчыя сувязі.

Уладзімір Мацюк у другой палове ХХ стагоддзя быў вельмі паважаным чалавекам на Дзятлаўшчыне. Яго абіраюць дэпутатам Дзятлаўскага пасялковага Савета дэпутатаў працоўных. А ў 1959 годзе мастак становіцца сябрам Беларускага таварыства дружбы і культурных сувязей з замежнымі краінамі пры Беларускім Доме народнай творчасці. Гэта арганізацыя ў свой час набыла некалькі прац Уладзіміра Мацюка для паказу за мяжой. Яму быў заказаны твор з дрэва ў якасці падарунка ад БССР на фестывалі моладзі ў Варшаве ў верасні 1955 года. Ён прымаў актыўны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзенні агульнабеларускага фестывалю моладзі і студэнтаў у 1957 годзе, за што яго ўзнагародзілі ганаровай граматай. Апошняй вялікай выставай, у якой удзельнічаў Уладзімір Мацюк, з'явілася Усесаюзная выстава-конкурс дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва самадзейных мастакоў і майстроў народнай творчасці ў 1970 годзе. Скульптура мастака „Мішка-сладкоежка” была адной з лепшых і яе выбралі для ўдзелу ва Усесаюзнай рухомай выставе па гарадах Поўначы і Сібіры ў 1971 годзе.

У апошнія гады свайго жыцця Уладзімір Мацюк працаваў толькі для сябе. Свае працы ён дарыў сябрам і сваякам. Спрабаваў займацца і разьбой па косці. Усе гэтыя працы часта можна было ўбачыць на розных беларускіх выставах.

За некалькі гадоў да смерці мастак пачаў губляць зрок і не мог больш працаваць. Гэта была для яго трагедыя. А 24 лістапада 1989 года Уладзіміра Мацюка не стала. Ён памёр у Дзятлаве, дзе і пахаваны.

За сваё жыццё Уладзімір Мацюк стварыў сотні выдатных твораў з дрэва і косці. Сёння яны захоўваюцца ў прыватных, беларускіх, расійскіх і польскіх музеях і архівах, а таксама ў Дзятлаўскім гісторыка-краязнаўчым музеі. А дзясяткі арыгінальных твораў мастака, якія ён аддаваў на розныя выставы, проста зніклі і лёс іх невядомы. Асноўнай тэматыкай яго твораў былі і засталіся гісторыя беларускага народа, сялянская праца, жывёлы і фальклорныя персанажы, а таксама скразной тэмай праз розныя творы праходзіць вайна. Ёсць у мастака невялікі прамавугольны барэльеф „Жах”. У рамцы з немудрагелістым арнаментам — фігура жанчыны. Просты твар. З-пад хусткі выбіліся пасмы валасоў. Працягнутымі наперад рукамі жанчына абараняецца ад нечага жудаснага. На твары застыў выраз жаху...

Асабліва ўдалай трэба лічыць і скульптурную кампазіцыю „Перамаглі ў вайне — пераможам і ў працы...”. Яна і сёння сведчыць аб ідэйным стаўленні мастака. Гэтай тэме прысвечаны і скульптуры „Тры пакаленні ў барацьбе за Радзіму...”, „Пастух-сувязіст”, барэльеф „Данясенне”, праект помніка загінуўшым воінам і іншыя. Тэма ўзнаўлення гераічнага мінулага беларускага народа, відаць, бярэ пачатак у больш ранейшых працах мастака. Вось кампазіцыя „Гэта было даўно”. Дзед нешта распавядае ўнуку, які прымасціўся каля яго ног. Цікава, што рысы твару дзеда нечым нагадваюць твар непакорнага бунтара. А барэльеф „Вязень” адлюстроўвае безыменнага важака беларускіх сялян-паўстанцаў. Ён кінуты ў сутарэнне, дзе можна толькі сядзець. На нагах вязня цяжкія кайданы. Але сілы ў яго руцэ, якая сціскае краты. Колькі мужнасці і волі ў яго паглядзе!..

Найбольш блізкай для Уладзіміра Мацюка была вясковая тэма. Вельмі прыгожай атрымалася драўляная скульптура „Начное”. Выканана яна з дубу. Сам колер — рыжавата-чорны — выкарыстаны для перадачы начнога часу. У цэнтры скульптуры — касцёр, каля якога сядзяць тры хлапчукі-пастушкі. Побач з імі — сабака. Глыбокае пачуццё і майстэрства дазволілі мастаку стварыць праўдзівую кампазіцыю. А праца „Скончаны працоўны дзень” з'яўляецца нібы працягам яго серыі прац на вясковую тэматыку. У ёй мастак паказаў, як людзі пасля працоўнага дня вяртаюцца з сенажаці дамоў. Яны ўзбуджаныя, вясёлыя, ёсць тут і свой музыкант, гучыць песня. Гледзячы на гэтую працу, нібы трапляеш у маленства, да вяскоўцаў, разам з імі дзеліш радасць плённай працы і творчага натхнення. Сёння моладзі гэта не зразумець. Галоўнае ў барэльефе — гэта сам чалавек, яго фізічная і духоўная прыгажосць. Такіх твораў у мастака было вельмі шмат. Для іх выканання ён выкарыстоўваў розныя пароды дрэва: бярозу, клён, дуб і іншыя. І дрэва ажывала ў руках народнага ўмельца і майстра. Ён па-майстэрску валодаў інструментамі, якія купляў у крамах, а таксама рабіў сваімі рукамі...

Уладзімір Мацюк пражыў няпростае, але доўгае жыццё. І пражыў беларускі мастак з Беластока яго не дарэмна. Ён усё жыццё любіў працаваць, шукаць, тварыць. І праца прыносіла плён. Яго зямляк з вёскі Бацюты Мікалай Несцярэўскі, які шмат гадоў пражыў у Дзятлаве і добра ведаў Мацюка, прыгадвае: „Я добра ведаў Уладзіміра Іосіфавіча. Ён у Дзятлаве працаваў мастацкім кіраўніком Дома культуры, а я — інструктарам. Гэта быў вельмі таленавіты рэзчык па дрэве, даволі адукаваны і разумны чалавек. Працаваць з ім было адно задавальненне”.

**Сяргей ЧЫГРЫН**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

Фота Ганны Кандрацюк



# Навагоднія пажаданні

Ці можа Новы год абысціся без пажаданняў? Ніколі — не! Гэта новы пачатак, час, калі прыдумваем новыя планы, калі ставім сабе новыя задачы, абяцаем паправіцца. У гэты час, як ніколі, верым у моц і магію слоў, у іх ажыццяўленне, здзяйсненне. Гэта нашы мары, нашы крылы, цудоўныя сны...

Словы на святочнай картачцы — найпрыгажэйшы навагодні падарунак. Асабліва, калі картачкі выкананыя вашымі рукамі. Тут жа вышыванкі і мазаікі, маляванкі і наклейкі.

Ставім іх на пачэсным месцы, любуемся, чытаем некалькі разоў, усміхаемся. Магія навагодніх слоў наклікае радасць, надзею. Верым, што ўсе добрыя, родныя словы, здзейсняцца!

Таму ў гэтым месцы шчыра дзякуем за вашы пажадальныя картачкі з нагоды Каляд і Новага 2017 года. І зычым Вам таксама многа сонечных дзён і непаўторных здарэнняў!

**Зорка**

## Зюзя — Дзед Мароз

Старыя людзі кажуць — «сёння зюзя». Іначай, гэта вялікі мароз. Нашы продкі верылі, што ў час вялікіх маразоў па зямлі ходзіць Зюзя. Ён стары, з белымі як снег валасамі і доўгай белай барадой, нізенькага росту, кругленькі. Зюзя ходзіць басанож, яму не страшныя маразы. У руцэ носіць жалезную булаву. Гэты чалавечак любіць праводзіць час у лесе, ён ведае мову звяроў і птушак. Часам заходзіць у вёску, тады людзі кажуць, што зіма будзе марозная. Каб неяк задобрыць Зюзю, беларусы на Каляды і напярэдадні Новага года абавязкова гатавалі куццю ды адну лыжку заўсёды астаўлялі для Зюзі. Хоць куцця заставалася някранутай, верылі, што яе з'еў лясны чалавечак.

Калі Зюзя галодны і разлаваны, ён стукае сваёй булавой аб пень і тады па зямлі ідзе такая ломка, трашчаць зямля, дамы, дрэвы.

Сёння, паводле ўяўлення старажытнага Зюзі, ведаем Дзеда Мароза. Праўда, той, які жыве ў Белавежскай пушчы зусім не страшны. Ён дэкламуе вершы і раздае падарункі госцям.

(з беларускай міфалогіі)

Фота Ганны Кандрацюк



## Вершы Віктара Шведа



### Які выхад

Скардзіцца Ганулля:
— На злосць нам напэўна
Пазбылася бабуля
З куратніка пеўняў.

І што цяпер будзе,
Скажы ты мне, матка,
Хто мяне абудзіць
У школу на заняткі?

### Шкада казлянят

— Бабуля, калі ласка,
Раскажы мне казку:
— Праз лес ідуць казляняты
А за імі воўк зубаты.

— Не расказвай, — просіць Уля, —
Казкі мне далей, бабуля.
Шкада, вядома, акурат
Гэтых маленькіх казлянят.

## УВАГА КОНКУРС! № 03-17

**У кожным дому ёсць, на дачы —**
**на стале ці на сцяне.**
**Яно кожнага з нас бачыць,**
**а сябе — ніколі, не!**
**Л.......**

**(У. Мацвеенка)**

### Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 29 студзеня 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 52: святлафор.**

**Узнагароды, каляровыя алоўкі, выйгралі Алякасандра Аніськевіч і Наталля Гайдук з КШ № 1 у Гайнаўцы. Віншуем!**

# Воўк — гэта воўк!
*(гуцульская казка)*

Злавіў Янук ваўчаня, гадаваў яго, бо ж вельмі хацелася яму займець свайго ваўка. А воўк — гэта воўк! Узяў і задушыў авечку. Рашыў Янук прадаць шэрага. Вядзе на рынак ваўка на павадку, а насустрач пан ідзе.

— Што гэта за сабака ў цябе? — пытае пан. — Колькі жыву, такой пароды яшчэ не бачыў?

— Вось, каб ведалі, — кажа Янук, — ніякі гэта сабака, а перадавік-пладаўнік. Калі яго нанач упусціць да авечак, то раніцай лік авечак удвая пабольшае.

— Дык прадай мне гэту штуку, — просіць пан. — У мяне адзін статак авец, хай і другі будзе. Кажуць, ад прыбытку галава не баліць!

Доўга яны таргаваліся і ўрэшце рэшт Янук прадаў свайго ваўка за сто злотых. Яшчэ і параіў:

— Упусціце яго да авечак познім вечарам так, каб ніхто не бачыў. Ды і самі не заглядайце, бо ж сурочыць можна…

Паслухаў пан і зрабіў як раіў яму Янук. На золку ідзе ў кашару*, а там дзверы не адчыняюцца.

Прыбег пан да жонкі і хваліцца:

— Упусціў я да нашых авечак перадавіка-пладаўніка, а ён столькі авечак развёў, што дзверы ў кашары не адчыняюцца!

Неяк з цяжкасцю адкрылі яны дзверы. А там — пабоішча, як пасля бітвы. Усе авечкі перадушаны.

Пан як стаяў, так ад жаху самлеў. А воўк, поўны як бочка, выскачыў сабе з кашары і пабег у лес.

**(пераклад з украінскай мовы Ганны Кандрацюк)**

* кашара — загарадзь для авечак.

Фота Ганны Кандрацюк



Дзяўчаты з Нарвы

Грышка ВАСІЛЮК
Супрасль, Гімназія свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку

## Жыццё

Ён нарадзіўся.
Ён танцаваў.
Ён радаваўся.
Ён плакаў.
Ён быў здаровы.
Ён хварэў.
Ён быў старэнькі.
Ён памёр.

## Дрэва

Вялікае, старое дрэва
Расло тут сто гадоў.
Вялікае ўправа і ўлева.
Аж хтосьці ўключыў святло!
Вялікае дрэва знікла.
А гэта быў толькі сон!

## Ліст

Я гляджу праз акно.
Снег. Снег белы, пушысты.
А на ім — скрынка на лісты.
Я туды іду, бягу.
Я гэта люблю.
Адчыняю скрынку.
А там няма ліста!..

*Замкі і палацы Беларусі*

# САПЛІЦОВА — ДОЛЬНАЯ РУТА!

Часта думаем, што месцы і асобы ў літаратурных творах прыдуманыя. Знакамітыя аўтары разумеюць, што найбольш цікавае жыццё і што ніякая выдумка яго не перавысіць. Усё залежыць ад таго, колькі мы самі пабачым і зразумеем ад пабачанага і перажытага.





Вось «Пан Тадэвуш», адзін з найважнейшых твораў Адама Міцкевіча, мае канкрэтных персанажаў і месцы. Даследчыкі мяркуюць, што славутае «Сапліцова» — гэта Дольная Рута каля Навагрудка. А каб было больш ясна, у наваколлі той жа Дольнай Руты па наш дзень існуе вёсачка Сапліцова. Гаспадар двара, суддзя Сапліца, на думку даследчыкаў, гэта ніхто іншы як уласнік двара ў Дольнай Руце, юрыст Медард Растоцкі. Пасля смерці бацькі паэта ён стаў законным апекуном Адама Міцкевіча. У 1813–1815 і 1819–1821 гадах паэт вельмі часта прыязджаў у Дольную Руту. Разам з'язджаліся сюды яго родныя, сваякі і сябры. Успамін паляванняў, паходак у грыбы ці любоўныя флірты сярод чароўнай прыроды паслужылі літаратурным фонам для «Пана Тадэвуша».

У эміграцыі Міцкевіч вельмі часта ўспамінаў гэты куточак Навагрудчыны. Двор у Дольнай Руце заўсёды явіўся яму самым дарагім сэрцу месцам на зямлі.

А пошнім уласнікам «літаратурнага» двара былі шляхціцы Пашкоўскія, якія валодалі маёнткам да 1939 года. Двор раскінулі ў пяцідзясятых гадах XX ст., але засталася ад яго фатаграфія.

Ці ж гэты будынак не напамінае вам славутага «Сапліцова»?

**Зорка**

# Польска-беларуская крыжаванка № 03-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 51-16:**

Дарога, Ян, Ас, інакш, коска, зорка, зіма, но, арак, смех. Калена, ды, за, возік, сом, ікра, ганак, як, не, іншы, ох.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Дам'ян Карнілюк, Вікторыя Гаць, Іаанна Нікіцюк** з Бельска-Падляшскага, **Габрыеля Карбоўская** з КШ № 3 у Гайнаўцы, **Матвей Зыскоўскі, Аляксандра Аніськевіч, Магда Люнда** з КШ № 1 у Гайнаўцы, **Оля Кардаш, Аліўка Порац, Мая Тапалянская** з Нарвы. Віншуем!

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Nasi / Leszczyna | | Bak / Dok | | | |
| | Mit | Łada / Mors | | | | | Bok | |
| | Miecz / Worek | | | | | | Kolędnik | |
| Kaduk / Koszyk | | | | | | Krok | | |
| | | | | | Szyfr | | | |
| Jadło / Dżip | | | | | | | No | |
| Skład | | | | Konie | | | | |
| | | | | | Kok | | | |



Вера МАСАЙЛА

## Карціна з жураўлямі ’46 года

Дзякую нябёсам
што памяць моцна
сцеражэ ўспаміны
фурманаў ’46 года
Дзякую
што прад закрытымі
вачыма
плывуць карціны
з далёкага прошлага
Дзякую
што часта
бачу на іх
успаміны дарог
святой памяці
бацькі
— пралятаючыя
клінам у небе
журавы

Прыглядаюся бліжэй
чарадзе
і распазнаю знаёмых
са старых здымкаў
— хлопцаў з роднага
сяла
вазакоў ’46 года

Ім не дадзена
было
станўць на ручніку
ці паблаславіць
дзяцей да шлюбу
Яны з жураўлінай
песняй
плывуць у вырай
над хвалямі стройнай
роднай збажыны

Дзякую
што магу
дарыць карціну
з жураўлямі
малодшым пакаленням

Дзякую
што над сінім
ветразем Збуча
заквітнелі як асаблівыя
кветкі
— купалы царквы
мучанікаў холмскіх
і падляшскіх

* * *

Цяпло твайго
позірку
аграване
празяблую душу
Твая рука
на маёй далоні
спалучае
зямлю з небам
Тупат тваіх
чаравікаў
адганяе за парог
сумныя думкі
Шэпт з тваіх
вуснаў
топіць лёд
на моры няснасак...

... а я няўдзячная
чагосьці чакаю

Не ведаю
што найпрыгажэйшае
ц я п е р?!.

## Мужу

быў люты
ты прыйшоў
на панадворак
майго дзявочага
сэрца
гарачай чырванню
заходзячага сонца
ты адчыніў
наскрозь дзверы
маёй чыстай
душы
ты завёў у яе
нябесную яснасць
зорная марозная
ноч
запахацела чаромхай

твае юнацкія
крокі
ў рытме скрыпучага
снегу
далікатна запрасілі
ў зачарваныя
санкі
ад шалеючага ветру
я не захісталася...
ў мяцеліцы адчуванняў
я першы раз
спрабавала
добрага віна
з вадаспаду
тваіх вуснаў
у полымі люстра
тваіх вачэй
я ўбачыла
масточак да раю

мінаюць гады
а мы ўсё
імчымся
праз завею
павозкай жыцця
з мараў і сноў
ступаючы цвёрда
па зямлі
як снегавік
лепім свой
уласны свет
разам менш
надакучае
востры снег
сярдзіты мароз

мы заквітнелі
шчасцем
нашых дзяцей
шчэбетам унучанят
вялікі дзякуй
нябёсам
можа дажывем
часу
каб жыць
адраджаючымся
ўсё нанова
каб толькі
шчаслівым
каханнем
нашых унукаў?

## Вазакі ’46 года

Яшчэ па вайне
не загаіліся
раны ў сэрцах
аднавяскоўцаў
Яшчэ не страпянуліся
памятыя фашысцкімі
налётамі
душы сялян
Яшчэ на скрыжаванні
дарог
асулпянелыя мокрыя
вочы мацярэй
не перасталі чакаць
з франтоў
сваіх Андрэяў...
... а ўжо чарговы жах...

Яны ахвотна
паехалі па дзерава
на патрэбы
знішчанай вайной
Малой Айчыны

Яны ні за што
не адракліся
ад сваіх беларускіх
каранёў
Яны мучанікі
за веру.
Ім паставім у Збучы
царкву.
Яны для нас прыклад
жыцця!




Вера МАСАЙЛА

# Сучасныя вячоркі — успаміны вазакоў ’46 года

Асобы:

**В. — Варка — сястра вазака Ваські са Збуча**
**М. — Міхась — сябра Варкі, сусед, кум**
**Н. — Надзя — сяброўка Варкі, суседка, кума**
**А. — Алёна — пляменніца Варкі**
**С. — Сцёпа — сябра Алёны, музыкант з баянам**

**М.:** Добры вечар, кумо! Не перашкаджаем мы табе сваёй прысутнасцю?

**В.:** Аб чым ты, даражэнькі, гаворыш? Я вельмі радуюся, што хтось да мяне прыйшоў, а яшчэ ты з Надзяй. Гэтыя ж асеннія вечары такія доўгія, тэлевізар папсаваўся, а я латаю мяшкі, што парваліся ў сёлетняе капанне бульбы.

**М.:** Бачыш, якая ты працавітая! То і я запляту кошык, каб не сказала, што я гультай... Ды ў цябе хтосьці яшчэ ёсць?!.

**В.:** Як ты заўважыў? Ёсць! Сёння пасля школы (на два дзянькі) прыехала да мяне ўнучка з Гайнаўкі, а да яе прыйшоў Сцёпа, а то заўсёды я адна, як калок. Алёнка вельмі цікавіцца прошлым, сваімі каранямі, прыгожа вышывае беларускія ручнікі. Паглядзі!

**М.:** Сапраўды, незвычайная работа!

**А.:** Добры вечар!

**М.:** Добры вечар, Алёна!

**А.:** Сядайце, калі ласка! Я вельмі цешуся, што пра маю бабулю сябры не забываюцца. А вашы апавяданні пра прошлае, дзядуля Міхась, я вельмі люблю слухаць.

**М.:** Ой, паддобрываешся старому, Алёна, ды дзякую, прыгажуня!

**А.:** Я толькі праўду кажу!

**М.:** Няхай будзе.

**В.:** Як хуценька, дзетка, прайшла наша маладосць. Здаецца, нядаўна былі мы такія як ты, хадзілі ў школу, хлопцы цягалі за косы, а я ўжо ўдавіца, Мішка ўдавец. Хутка і мне прыйдзецца выбірацца на той свет.

**А.:** Ой, бабуля, перастань! Ты для мяне заўсёды будзеш маладая!

**Н.:** Знаеш, Варка, у нас жыццё толькі адно і другі раз, як спявае Марыля Радовіч, нас на гэты баль не запросяць. Трэба цешыцца кожнай хвілінай, кожнай кветкай перад хатай, кожным яблыкам у садзе. Не ўсім нашым аднагодкам было дадзена пераўжыць столькі гадоў, што нам.

**В.:** Святая праўда, кумо! А памятаеш, Мішка, майго брата Васю, як казалі, Васілішынага, Васіля Андрэйчыкавага — слаўнага музыканта на ўвесь Збуч, Ваську Сцяпанавага, Аляксандра Вішнеўскага ці Нічыпара Карпюковага — якіх і косці ўжо спарахнелі?

**М.:** Як не памятаць! Здаецца, учора ладзіў я з трыма, святой памяці, Васькамі, вячоркі і патанцоўкі. Васька Адрэйчыкаў цудоўна іграў на баяне. Усе яны мелі прыгожыя галасы, спявалі, як салаўі. Усе дзяўчаты за гэтымі хлопцамі аглядаліся. Перад імі магло быць цэлае шчаслівае жыццё.

**В.:** Аднак, выйшла інакш!

**А.:** А што з імі здарылася, бабуля, раскажыце, прашу! Яны, напэўна, згінулі на вайне, іх забілі немцы?

**В.:** Ой, дарагое дзіцятка! Справа ў тым, што не на вайне, і не немцы, а пасля вайны ў студзені тысяча дзевяцьсот сорак шостага года і свае людзі — атрад «Бурага».

**А.:** А як гэта сталася?

**С.:** Чытаў я ў Інтэрнэце, што дваццаць сёмага студзеня сорак шостага года з загаду арлянскага войта, солтысы некалькіх вёсак хадзілі па хатах і разам з міліцыянтамі рабілі спіскі мужчын, якія мелі ехаць сваімі падводамі ў пушчу па дзерава на патрэбы Арлянскай гміны. Ніхто не спадзяваўся ніякай бяды.

**В.:** Праўду напісалі, Сцёпа! На другі дзень, а зіма была марозная, яшчэ ноч, а ўжо солтыс застукаў да нас у акно, каб хутчэй ехаць. Вася яшчэ спаў пасля вячорак. Бацька хутка запрог у воз кабылу, Васька паспешна апрануўся, не хацеў есці. Маці скінула з ног і дала яму свае валёнкі. І ўжо босая каля Сцяпанавых дагнала фурманку сына, каб даць яму торбачку з хлебам і салам. І... толькі мы яго бачылі.

**М.:** Таксама яго сябры са Збуча, Ракавіч, Чыжоў, Арэшкава і іншых вёсак больш ужо не вярнуліся дамоў. Яны, як цяпер ужо ведаем — ад Лазіц, дзе іх перастрыў атрад «Бурага», сталі транспартам для яго людзей і за чатыры дні адбылі крыжовы шлях праз між іншым Гайнаўку, Вульку-Выганоўскую, Краснае Сяло да месца забойства — да лесу пад Пухаламі-Старымі.

**Н.:** На вачах нашых бедных вазакоў гарэлі Залешаны і людзі «Бурага» стралялі да нявінных жанчын і дзяцей. А на канец, трыста метраў за вёскай Пухалы-Старыя ў пяску пасляваенных ямак трыццаць фурманаў закончыла сваё маладое жыццё.

**А.:** Як гэта магчыма? Кажаце, было гэта ўжо пасля вайны. Ну і за што іх забілі?

**М.:** Яны ні ў чым не былі вінаватыя. Мае сябры са Збуча былі маладымі, працавітымі, вясёлымі людзьмі. Мелі свае мары, планы. Васька музыкант меў нарачоную. Брат тваёй бабулі Варкі — вельмі прыгожы, добры хлопец, меў толькі дзевятнаццаць гадоў, сусед, Вася Сцяпанаў — дваццаць. Аляксандр пакінуў жонку і чацвярых дзяцей, а Нікіфар асіраціў трох дачок, якія ўжо больш не ўбачылі бацькі і без гаспадара і каня ды воза прыйшлося чатыром бабам гараваць на гаспадарцы.

**Н.:** Янку Тарасюку з Чыжоў было толькі сямнаццаць гадоў і маці да канца сваіх дзён не перастала яго чакаць і верыць, што ён дзесьці жыве, можа ў Расіі, і вернецца дахаты, а бацька да самай смерці шкадаваў што ён сам не паехаў, выслаўшы сына.

**А.:** А што з імі зрабілі? Расстралялі?

**Н.:** Сведкі гэтых падзеяў расказвалі, што выстралаў было мала, галоўным чынам забівалі біўшы прыкладамі па галаве. Жыхары Пухалаў-Старых да канца запамяталі страшэнны крык мужчын, бачылі, як варушылася зямля ў ямах, а потым — як звяры расцягвалі плытка закапаныя астанкі вазакоў.

**В.:** Людзі з Пахалаў-Старых пяцьдзесят гадоў баяліся пра гэта гаварыць, каб іх, ці іхніх дзяцей або ўнукаў не спаткаў падобны лёс.

**А.:** Значыць усе вазакі загінулі. Ніхто не вярнуўся?

**В.:** Не, не ўсе. Некаторым пашанцавала вярнуцца; calісьці раскажу. Асабліва тым, хто назваў сябе палякам і католікам, людзі «Бурага» пусцілі ехаць дахаты.

**М.:** Мае сябры былі праваслаўнымі беларусамі і не адракліся ад сваіх каранёў. Калі іх папрасілі перахрысціцца — яны зрабілі гэта так, як навучыла іх гэтага ў дзяцінстве маці.

**С.:** Дык як прыказка гаворыць — «Бог неспяшлівы, ды справядлівы». Косці вазакоў дачакаліся сапраўднага праваслаўнага пахавання, помніка. Царква прыняла іх у лік мучанікаў за веру. Ды самае галоўнае — унучка аднаго з загінуўшых вазакоў Ірына ініцыявала пабудову ў вёсцы Збуч царквы холмскіх і падляшскіх мучанікаў, якую ў велікодны перыяд сёлета ўрачыста высвяцілі. Гэта якраз у сямідзесятую гадавіну смерці вазакоў.

**М.:** Адзін Бог ведае, ці каб не мучаніцкая смерць за веру нашых сяброў, была б сёння ў Збучы царква?

**А.:** Гэта вельмі цікавае ды сумнае і моцна кранае за сэрца. Ці варта раздзіраць раны?

**С.:** Казаў мой дзед Еўдакім: зло злом не пераможаш, ды праўду пра сваіх продкаў. Нават калі яна найстрашнейшая, трэба ведаць для перасцярогі і пераказаць яе малодшым пакаленням. Інакш мы не будзем сабой.

**В.:** Хадзі, унучка, заспяваем штосьці, а заўтра памінальная субота. Пойдзем у царкву паставіць свячу за душу нашага Ваські. Можа, яму там будзе лягчэй?

*Усе спяваюць народную песню «Каліна-маліна» і з мелодыяй іграная музыкантам Сцёпам сходзяць са сцэны.*

(працяг з Нівы №2) Размова з Верай і Уладзімірам СОСНАМІ з Пашкоўшчыны.

# Было ў Пашкоўшчыне

**— Я цяпер крану адзін з Вашых вершаў пра Пашкоўшчыну, які Вы нядаўна прачыталі ў Ляўкове: бруку нэ відно. Здаўна той брук быў?**
— Пры маёй памяці ўжо быў, цераз цэлую вёску.

**— ...ўжэ стрыэха пропала. Вы ўжо згадвалі пра саламяныя стрэхі, што яны былі паўсюдна да вайны, да канца ліпеня 1944 года, калі гітлераўцы тыя стрэхі падпалілі.**
— Стрэхі прапалі, калі немцы спалілі сяло. Пасля яшчэ стрэхі аказваліся. Бо здарылася такая добрая нагода, што людзі выязджалі ў Расію, і прадавалі хаты.

**— І многа выехала?**
— З нашай вёскі выехаў бадай толькі Лукашэвіч. А так, то многа выехала з Малiннік. А хаты ж адразу не збудуеш. Мы купілі хату ў Рудутах, якісь Амельян Зубацкі, які таксама выязджаў, прадаваў; то мы ўзялі хату і клуню, то яшчэ тая клуня па сённяшні дзень стаіць. І тыя стрэхі працягваліся крыху далей. А мы, як у 1947 годзе паставілі новую хату, то ўжо крылі дахоўкаю. І так рабілі шматлікія людзі.

**— А дахоўку адкуль бралі?**
— Яе выраблялі майстры. Яны мелі ў сябе майстэрні, дзе было многа полак. Чарапіцу выраблялі ў формах, яе затым шліфавалі і накладалі лічка; і яшчэ некалькі тыдняў яна мусіла сушыцца. Мы на сваю хату бралі дахоўку з Бельска, а ўжо як мы на цяперашняе месца перабраліся і хлеў крылі, то ўжо я браў дахоўку з Рудутаў; там Майстровіч Коля выробляў. І ў Кашалях быў майстар. А стрэхі яшчэ доўга былі.

**— ...газнік чэрэз дым чуть пробіваўся...**
— Гэта быў такі *капцюшак*, на нафту, без шкла. Вось у вёсцы быў такі гаспадар, якога людзі ўпадабалі і да яго сходзіліся на вячоркі. Вось, калі я прыходзіў са школы, то мой дзедка навяжа корму для кароў, вызначыць мне які каторай, і казаў: „Трэба раней зайсці, каб месца заняць, каб было дзе сесці". І там мноства людзей збіралася. Сення людзі перад тэлевізарам сядзяць, а тады ж шмат людзей мела за сабою розныя прыгоды ў свеце, некаторыя ў вайну былі ў палоне — у мадзьяраў ці аўстрыйцаў. То тут быў адзін такі сусед наш, і ў вайну ў нас апынуўся адзін нямецкі салдат, мадзьяр. То як той пашкавец стаў з тым мадзьярам гаварыць, то мадзьяр сказаў: „Ты нетутэйшы, ты — мадзьяр". Так ён вывучыў мову, бо хіба нейкія два гады ў палоне быў з 1915 года. І так людзі сходзіліся і кожны пра свае перажыванні расказваў.
А нафтавыя лямпы, са шклом, паявіліся ўжо пазней, як жанчыны на пакудзеллі сталі хадзіць. І так яно ішло памалу, пакуль аж дайшло да святла...

**— А святло калі ў вас правялі?**
— Бадай у 1952 або ў 1953 годзе.

**— ...нэ бэчыт овэчка і нэ йдэ корова. Калісь жывёлы было шмат. А ці цяпер трымае хто, напрыклад, авечак?**
— А тут недалёка, каля святліцы, сёлета трымалі тры ці чатыры авечкі. А так то няма.

**— ...ужэ мужчыны клепют косы, для бабоуў граблiе шукают. Дзе ў вас загатаўлялі сена?**
— У нас паплавоў многа. Калі б так падлічыць, то можа больш чым трэцюю часць складалі пашы і сенажаці. Па-над рэчкаю цягнуліся, там дзе млын стаіць, і край вёскі аж пад лес і далей.

**— ...жнут сэрпамі жыто. Ці доўга жалі сярпамі?**
— Жніво занадта не доўжылася. Бо як хто меў больш, той наймаў. А кожны стараўся наняцца, бо то нагода, бо то грош. Вось жончыны бацькі мелі больш зямлі, то ўсё наймалі. Прыйдуць дзесяць ці пятнаццаць жанцоў, з Малiннік, напрыклад. І чакаюць, бо то ж нагода. Аж у Спічкі хадзілі жаць, там ад Орлі. А як вяртаюцца назад, то такія спевы, што аж усё, здаецца, варушыцца. А ў сям'і быў дзед, была баба, быў бацька, была маці. І сем'і былі вялікія — пяць-шэсць дочак з сынамі, то як пойдзе чалавек восем-дзевяць... А поле аралі ў загоны, так каб пасля кожнаму было па рослугу. І кусок добры выйдуць. Верын брат з Тапчыкал гаварыў, што ўдваіх нажыналі чатыры капы, а гэта многа.

**— А калі перасталі жаць сярпамі, у каторым больш-менш годзе?**
— Косамі сталі касіць перад 1960-м годам, можа ў 1955-м, 1954-м... Бо я ездзіў у пэгеэр на жніво, у 1955-1956 годзе, то там косамі касілі. Нас было шаснаццаць хлапцоў і шаснаццаць дзяўчат. А грошы былі аднолькавыя: і для таго, хто касіў, і для тае дзяўчыны, што падбірала; а зносілі разам. А ў 1960-м годзе завіталі да нас касілкі, казалі, што ўжо рай настаў. А косамі то яшчэ час ад часу касілі аж да пачатку 1970-х гадоў.

**— ...ўжэ й ціпамі барабанят, эхо одбівалось, а жыто з сёго року ў жорна попалось. Цапамі малацілі хіба ж датуль, што і сярпамі жалі, бо ж тады нейкія малацілкі паявіліся...**
— Дзесь так перад 1960-м годам *кулка* мела агрэгаты; і так пайшло.

**— У жорнах малолі, хаця млын быў пасуседску...**
— У жорнах малолі доўга. Я помню, як згарэла сяло ў 1944 годзе, то швагер быў з Рудутаў, ён быў майстравіты і з кругляковў зараз паставіў хату. Жылі там мае дзяды, бо мы былі ў Парцаве, і шмат у той хаце было: запіч быў на цэлую хату і так там сем'і начавалі. То былі жорны і яны ў суткі не ставалі. Тры ці чатыры сям'і было — і трэба ж было і на хлеб намалоць, і осыпкі таксама.

**— Значыць — як сабе на хлеб малолі, то ў млын не вазілі?**
— Я не ведаю, як дакладна было; магчыма што зараз пасля вайны млын яшчэ не працаваў, можа чаго не хапала, бо пры немцах то ён малоў. А і ў млын завезці збожжа, то ж трэба было грошы мець, а адкуль тыя грошы ўзяць? Занясе яйкі прадаць, а трэба ж і купіць — і соль, і цукар. Збіралі шчавух, а колькі ж за той шчавух можа чалавек узяць? І дзесяць кіламетраў у Бельск пяшком. Возьме крыху запалак, або і не возьме; такое было жыццё...

**— ...ужэ діежка бабіна россохлась. Калі перасталі выпякаць хлеб у сваіх печах?**
— Я пякла доўга, а тады ўжо мала хто пёк, — адказвае спадарыня Вера. — Я перастала пятнаццаць гадоў таму, пасля аперацыі. А пірог то яшчэ часта пяку.

**— Ніхто не сварыўся. Сапраўды так было?**
— Не было так як сення.

**— А за мяжу, напрыклад.**
— Не, не было такога, можа нияк *выёнтково*. Людзі жылі дружна, памагалі сабе ўзаемна.

**— Добра пра такое штосьць пачуць. Яда нікому не смакуе, — гэта пра цяперашнюю. А калісь яда смакавала, як людзі напрацаваліся?**
— Усё рабілі. Было шмат стручковых: і гарох быў, і фасоля, і куццю з ячменю рабілі, і проса было, і грэчка. Так што людзі мелі чым харчавацца. Праўда, гэта не тое, што сення, калі селі выпіць гарбату. Абед варылі рана, чыгун *фуфайкаю* акручвалі, каб цяпло трымалася. Мяса тады многа не елі, бо калісь, калі калолі, то трэба было каб хапала на цэлы год, каб саланіна была...

**— Тут Алёша прыгрываў на сваёй гармошцы...**
— Ён граў пасля вайны. Летам збіраліся на мосце; тут быў драўляны мост, то сходзіліся з навакольных вёсак, з Малiннік, і зусюль... Той Алёша граў на гармошцы, а старык Яфрэм іграў на кларнеце.

**— А чаму на мосце?**
— Бо якія ж калісь хаты былі? А там жа драўляны мост, гладкі, і месца прыгожае, бо там рака і лес недалёка.

**— А цяпер спытаю Вас пра зусім іншае. Ваша вёска называецца Пашкоўшчына. Ці Вам вядома, адкуль узялася гэтая назва: ці ад якога Паўла, якога Пашком называлі, ці ад нейкай Парaскі, якую называлі Пашкай?**
— Я дакладна не скажу, як гэта было: *Paszkowszczyzną pan Paszkowski władał, a żona jego prawosławna Nadżka była, i tutaj uroczysko Nadżka zostawiła. I dzieci u nich nie było, bo i tak bywało, i nazwisko Paszkowski tutaj nie zostało.*

**— То я цяпер Вас спытаю, як гэта сталася, што Вы сталі складаць вершы. Ці яшчэ з хлапечага часу, калі ў школу хадзілі. І калі такі момант прыходзіў, каб штосьць напісаць: ці то вечарам, ці можа зранку.**
— А гэта ён ад роду такі дар мае: не ўспее хто што сказаць, а ён ужо скажа, і то да смеху, — адказвае спадарыня Вера.
— Бо я любіў пажартаваць.

**— А то добра, бо, як гаворыцца — смех гэта здароўе.**
— То я скажу, як дайшло да таго пісання.

**— Пэўна вершам. Ці Вы можа ўсё вершам гаворыце?**
— *Я хацеў бы быць паэтам, але штосьці не кляіцца. Калі з войска вярнуўся — трэба было жаніцца. Ужо я рады — жонка ў хаце. і ніяк не знаю, ад чаго пачаці. Сеў за стол, узяў бумагу, на жонку сваю звярнуў увагу. А людзі пішут, голавы мают, усё да рыму укладают. Піша з Рудутаў Зоя, што з Тапаркоў родам, як едут у горад заходнім самаходам. І з Малiннік Нюра смак пісаць пазнала — пра календар вершыкі яна напісала. А я няўдачнік, што ж пачаць — ніяк не знаю ад чаго зачаць. Раз да свайго лесу я дабраўся і на сам верх сасны дастаўся* (бо я яе зрэзаў, а яна мне завесілася, і я давай лезці абрубваць голі з вяраха). *Лячу з сасною і странуўся, і скулься той розум да мяне вярнуўся. І так памаленьку зачаў пісаць, каб бацькоўскай мовы не забываць. Апісваў я вёскі, сёла: Рудуты, Крывятычы, Тапчыкалы — усе даакола*. Так вось кажу, што ўпаў з *дзерва* і штосьць заскочыла такога.

**— То я столькі хацеў Вас распытаць. Можа было штосьць такое, пра што яшчэ варта было б згадаць?**
— У вайну гэтая сумная падзея здарылася. Было гэта 20 ліпеня 1944 года пасля абеду. Стральба прыціхла, людзі выйшлі са сховішчаў. Адзін вось сеў на столачак і дзве дачушкі прыгарнуў да сябе, і шмат людзей выйшла. А, відаць, у школе сядзеў нямецкі разведчык. І невядома, ці ён ведаў, што гэта цывільныя асобы, ці думаў што ваенныя. І навеў ён сюды агонь. Першы снарад не даляцеў. А другі снарад так трапіў, што таго мужчыну з трох-чатырохгадовымі дзяўчынкамі адразу ўсіх забіў, а жонцы, што лезла ў схованішча, сарвала чэрап. Гэта адна сям'я. А зноў іншыя маці з дачкою стаялі абнятыя і асколак, адзін, прашыў іх навылёт, таксама забіваючы на месцы. Тады загінула дзевяць душ — такая была трагедыя. На другі дзень выкапалі дол, заслалі дошкамі і засыпалі зверху. І так яны ляжалі да 20 жніўня, як немца пагналі далей, тады перапахавалі іх. А 27 ліпеня, як немец паліў сяло, то старыка, які прасіў, каб не паліць, то яго немец забіў, яго агонь асмаліў, бо блізка ляжаў; то і яго туды пахавалі. А тае маці з дачкою, што асколак прашыў, то яе муж раней, у Калляды пайшоў на чыгунку вартаваць. Ішоў па чыгунцы і, мабыць, не чуў цягніка, і поезд яго напалову перарэзаў...
— А майго тата забралі на перадавую, — дадае спадарыня Вера.

**— У Германіі; на работах быў?**
— Не, адсюль забралі.
— Запатрабавалі даведку з Масквы, — дадае спадар Уладзімір, — дзе бацька пахаваны. І прыслалі. Пахаваны каля Хэлмна, у агульнай магіле, дзе пакоіцца 12 800 чалавек.

**— Спачуваю. І за змястоўную размову дзякую. І жадаю Вам самага дабра.**
**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

**Уладзімір САСНА**

* * *

Тутэ я родыўся
дэ быў запіч у хаті,
радно з лянок
лежало,
што міело одягаті.
Тутэ я родіўся
й тут моя ойчызна,
назва ўсэ остаецця:
сэло Пашкоўшчызна.
Тіешыўсе ўсё жыцем,
хоч разна была доля,
усэ трымаўсь загона
і нэ кідаў поля.
І так собі задумаў –
хочу сказаті –
коб про сэло
Пашкоуўшчына
штось напісаті.
Уняты добрэ,
як жыце точылось,
як тут выглядало,
што потум змінілось.
Як усё змінілось
за памяті мэйі,
нэма ўжэ колісьнёй
хаты однэйі.
Бруку нэ відно,
ужэ асфальт лежыт,
хто йдэ чы йедэ,
всэ хутко біжыт.
Сэло міловіднэ –
ўжэ стрыэха пропала
як тут комуна
правіті стала.
Нэ стало ўжэ чуті
ляскотняў і звуку,
як тэрла баба лён,
которы брала ў руку.
До того шчэ трэба
трэпачкою біты;
зганэш як туой бабі
было тяжко жыті.
Чуты сіечку там
рыэжут,
тут жорна гудут,
ужэ вэчорыэйе –
покудіэльніці йдут.
Далей мужчыны
так хутко ступают,
столкі й лавы
ў Панькя займают.
Як всіе нараз закурат
Параскі нэ відно,
але так было
прынято
і нікому нэ ўстыдно.
Газнік чэрэз дым
чуть пробіваўся
і ўжэ з тых люді
ніхто нэ остаўсе.
Нэма на туом міесці
хліва, клуні, хаты
і так час проходіт
і ўсё міеў забраты.
Нэраз іду, дэ жыла
Марта стану,
ў одну й другу
сторону гляну.
ўжэ тут і чоловіека,
мало дэ застану.
Усё тут погасае
як у пэчы дрова,
нэ бэчыт овэчка
і нэ йдэ корова.
Бывало, настают
сінокосы,
ужэ мужчыны
клепют косы,
для бабоуў граблiе
шукают,
ідут покосы
розбіевают.
Настае жніво, што за
радость, ідут жаты:
ідэ дієд, баба, батько
і маты,
сын з дочкою сэрпы
мают,
по загонові займают.
Пэрэд зачынанём
жніва стаў дієд на
колієна
і моліўся, пара раз
пэрэхрыстіўся –
дякуваў Богу жэ
ўродило
і тогды ўжэ зачыналі
жніво.
Жнут сэрпамі жыто,
колос уніз гнэцця,
будэ хлієба пуод
достатком –
каждому здаецця.
Ужэ ў обієд по
сонцові зносіті
почынают,
дэвэть опірают,
трыма накрывают,
жыто сухое до клуні
браты,
трэба руоўно
укладаты.
Ужэ й ціпамі
барабанят,
эхо одбівалось,
а жыто з сёго року
ў жорна попалось.
За млёну дієд рукамі
ўзяўся,
управо жорна крутіт,
а баба ў діежці
росчыняе,
запах хлієбом чуті.
Стала з пэчы хлієб
выйматі –
оно запах ішоў по
хаті.
Дзісь чы то сон, чы
так здаецціе,
але шчэ штось у
памэті зостаецціе.
Ужэ діежка бабіна
россохлась,
обручэ злієтают,
на сэліе ўжэ хлієба
нэ пэчут,
ано ў обвозьных
склепах купляют.




# «Ніва» ў дакамп'ютарны перыяд

Сёння камп'ютарная тэхніка ў рэдакцыі — звычайная справа, без якой немагчыма сабе ўявіць падрыхтоўку выдання да друку. Цяпер тэксты трапляюць у рэдакцыю ў электронным выглядзе, праўка тэкстаў адбываецца на камп'ютары, макетаванне і вёрстка таксама, а звярстаны нумар у электронным выглядзе, таксама электронным шляхам, ссылаецца ў друкарню. Але яшчэ дваццаць пяць гадоў таму такая карціна працы рэдакцыі ўспрымалася б у катэгорыі фантастычных расказаў.

**Апрацоўка рэдакцыйных матэрыялаў**

У дакамп'ютарны перыяд важную ролю ў працы рэдакцыі адыгрывалі пішучыя машынкі. Журналісты здавалі свае тэксты ў рукапіснай або друкаванай форме. Адны прыходзілі з гатовымі ўжо машынапісамі, або самі перапісвалі свае тэксты на машынцы ў рэдакцыі, іншыя свае рукапісы дыктавалі машыністцы. Матэрыялы ад карэспандэнтаў у сваю чаргу траплялі ў рэдакцыю ў выглядзе рукапісаў. Рукапісы і машынапісы першапачаткова чытаў галоўны рэдактар, наносіў свае праўкі і, калі тэкст падыходзіў да друку, перадаваў сакратару рэдакцыі для далейшай моўнай апрацоўкі. Пазней папраўлены рукапісны тэкст трапляў да машыністкі, якая друкавала яго на машынцы. Старонка машынапісу змяшчала ў сабе 30 радкоў тэксту па 60 знакаў з прабеламі ў кожным. Гатовы машынапіс зноў трапляў на стол сакратара рэдакцыі, якая яго вычытвала і яшчэ раз папраўляла. Калі на старонцы машынапісу было больш чым пяць папраравак, трэба было яго перапісаць нанава, бо такое было патрабаванне друкарні, каб тэкст быў чытабельны для лінатыпіста.

**Макетаванне**

Так падрыхтаваныя і вычытаныя машынапісы траплялі на стол галоўнага рэдактара, які размяркоўваў іх па паасобных старонках газеты. Гэты працэс называўся макетаваннем. Макет састаўляў тэхнічны рэдактар, а калі такога не было рабіў гэта сам галоўны рэдактар. На дванаццаці аркушах паперы фармату А3 (бо такі фармат «Нівы» ад 60 гадоў), на якіх былі пазначаны 4 калонкі (гэта традыцыйнае дзяленне ніўскай старонкі) трэба было разрысаваць алоўкам схему кожнай старонкі. На макеце старонкі трэба было пазначыць месца загалоўка (мог быць у пачатку або ў сярэдзіне тэксту, шырокі на адну або больш калонак), месца здымка або іншага ілюстрацыйнага матэрыялу і тэксту. Каб вызначыць, якую плошчу на старонцы зойме тэкст, трэба было колькасць радкоў машынапіснага тэксту пералічыць на тыпаграфічныя пункты і пры дапамозе тыпаграфічнай лінейкі размеркаваць на макеце. У адпаведнасці з макетам трэба было зрабіць паметкі на машынапісе з указаннем шырыні калонкі і велічыні шрыфту (гэтыя ўказанні былі патрэбнымі лінатыпісту і наборшчыку). Паколькі тэхнічнымі рэдактарамі працавалі ў нас мастакі, не ўсе загалоўкі складаліся шрыфтам у друкарні. Рысавалі яны застаўкі — невялікія кампазіцыі графічнага характару, якія змяшчалі ў сабе загаловак артыкула. Застаўкі, пакуль трапіць на тыпаграфічную машыну, разам са здымкамі і іншым ілюстрацыйным матэрыялам, апрацоўваліся ў друкарні ў цэху званым «хіміграфія». Здымкі тады журналісты рабілі класічнымі фотаапаратамі. Плёнку для праяўлення здавалі яны ў фоталабараторыю, якая абслугоўвала ўсе рэдакцыі перыядычных выданняў, якія выдаваліся Беластоцкім прэсавым выдавецтвам, і адтуль атрымлівалі адбіткі здымкаў. З часам класічныя фотаапараты выцеснілі лічбавыя апараты.

**Друкарня**

Пасля макетавання макет з дванаццаці разрысаваных аркушаў фармату А3 з машынапісамі і ілюстрацыйным матэрыялам, трапляў у друкарню. Спачатку за машынапісы бралася ў нашым выпадку лінатыпістка. Набірала яна тэксты на лінатыпе ў адпаведнасці з указаннямі памечанымі на машынапісе, якія акрэслівалі від і размер шрыфту ды шырыню калонкі. Лінатып — гэта паліграфічнае абсталяванне для адліўкі радкоў тэксту з тыпаграфскага сплаву, які вылучаўся нізкай тэмпературай плаўлення і добрымі ліцейнымі якасцямі. Адлітыя радкі тэксту, званыя гранкамі, адбіваліся на паперы для папярэдняй карэктуры. Рабіла яе карэктарка, якая працавала ў друкарні. Пасля навядзення паправак у адлітых радках гранкі ад лінатыпісткі траплялі ў рукі наборшчыку, які з гранак і ілюстрацыйнага матэрыялу, нанесенага ў «хіміграфіі» на бляшаныя пласціны, у адпаведнасці з разрысаваным макетам, вярстаў паасобныя старонкі газеты. Так падрыхтаваныя старонкі адбівалі на паперы. Адбіткі, званыя шчоткамі, траплялі да карэктаркі, рэдакцыі і цэнзара. Праўкі, зробленыя ў рэдакцыі, сакратар рэдакцыі дыктавала па тэлефоне карэктарцы ў друкарні. Пасля навядзення ўсіх правак і атрыманні згоды цэнзара, пасля двух тыдняў працы ў рэдакцыі і друкарні, так падрыхтаваныя старонкі траплялі на друкарскую машыну. На трэцім тыдні ў чацвер «Ніва» з друкарні паступала ў распаўсюд у прадпрыемства «Рух» і ў пятніцу раніцай можна было яе купіць у шматлікіх тады кіёсках.

**Віталь ЛУБА**

*(даклад быў прачытаны ў час юбілею 60-годдзя «Нівы», 26 лістапада 2016 г.)*




Калі на нейкім сайце месяцца выявы малюнкаў ці фотаздымкаў, то найбольш цікавым падаецца іх размяшчэнне, падобнае на галерэю ў выставачнай зале. Гэта стварае ўражанне наведвання сапраўднай выставы, не адыходзячы ад уласнага камп'ютара. Менавіта такая віртуальная артгалерэя ўжо многа гадоў знаходзіцца пры паэтычным тэатры „Арт.С" і месціцца ў інтэрнэце па адрасе http://gallery.art-s.by.

Галоўная старонка прадстае перад намі ў выглядзе схемы паверха нейкага будынка — са сходамі, праёмамі для акон, дзвярэй, пазначаных памяшканняў (напрыклад „холл" ці „гардэроб"). Зразумела, гэта ўсё звычайнае аздабленне для нadання віртуальнай артгалерэі большага падабенства на рэальную, але такая асаблівасць гаворыць аб кемлівасці і крэатыўнасці таго, хто распрацоўваў сайт.

У артгалерэі чатыры залы. Яны таксама абазначаныя як асобныя пакоі, дзе, як мае быць, „вісяць" карціны. Першая выставачная зала мае назву „Нарачанскія чары", аўтарам якой з'яўляецца фатограф і паэт Рагнед Малахоўскі. „Упершыню гледачы пабачылі „Нарачанскія чары" ў бібліятэцы Цёткі (Мінск, вул. Талбухіна 12а) у траўні 2007 года. Сёння з імі можна сустрэцца зноў у віртуальнай выставачнай зале Арт. С. Вы пабачыце зімовы і летнія пейзажы, світанне і захад сонца, чаек і лебедзяў, атрымаеце асалоду ад краявідаў Нарачы", — распавядаецца на галоўнай старонцы. Тая ж самая інфармацыя месціцца і ў самой „зале" побач з прадстаўленымі ў выглядзе карцін, што вісяць на сцяне, фотаздымкаў. Каб пpаглядзець іх, дастаткова проста круціць колам камп'ютарнай мышкі, такім чынам, нібыта праходзячы ўздоўж сцяны з фотавыявамі.

Зала № 2 месціць коміксы, прысвечаныя Блакітнаму Свіну — „сімвалу антыгламурнай літаратурнай прэміі суполкі „Літаратурнае прадмесце", якая ўручаецца за нонканфармізм і здольнасць захаваць творчую „самасць". Коміксы падзелены на сем частак, першая з якіх пачынаецца з верша пра паэтку, якой здрадзіў каханы.

Мноства фотаздымкаў пад агульнай назвай „Подых горада" знаходзіцца ў трэцяй зале і з'яўляецца праяўленнем творчасці фатографа Алены Кахановіч. „Горад як чалавек: са сваім характарам, норавам, са сваім настроем. Мне пашанцавала наведаць розныя краіны, прайсціся па праспектах вялікіх мегаполісаў і па вузенькіх вулачках правінцыяльных гарадкоў. І я ўпэўнена магу сказаць, што горад гэта не толькі яго гісторыя, падзеі мінулага і сучаснасці. У першую чаргу, кожны горад — гэта яго жыхары, людзі, якія напаўняюць яго жыццём. Варта толькі зрабіць некалькі крокаў па незнаёмым табе горадзе, і ты можаш пабачыць многае: радасць, смутак, задуменнасць і нерухомы спакой — усё гэта на тварах людзей вакол цябе. Назіраеш за імі і быццам адчуваеш дух самага горада", — распавядае аўтарка ў тэксце, што анансуюць фотаздымкі.

А вось чацвёртая зала змяшчае працы некалькіх фатографаў — француза Цьеры Клеша і беларусаў Вольгі Лойкі і Віктара Байкоўскага, і носіць назву „Паралелі". Фотаздымкі, як і ў папярэдняй зале, амаль усе прадстаўляюць гарадскія сюжэты. Пра кожнага аўтара падаюцца невялікія біяграфічныя звесткі, побач з якімі месцяцца партрэтныя здымкі фатографаў.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з календара

Аўтар сучаснага эталона герба «Пагоня»

# 15 гадоў з дня смерці Яўгена Куліка

Беларускі мастак, кніжны графік, бібліяфіл Яўген Кулік нарадзіўся 31 кастрычніка 1937 г. у Менску. У энцыклапедыях ён пазначаны як мастацкі рэдактар часопісаў „Бярозка" і „Вясёлка", аўтар рэканструкцый беларускіх замкаў, партрэтаў дзеячаў Беларушчыны. Адзін з заснавальнікаў суполкі „Пагоня". Але галоўны плён яго працы — аўтарства эталона герба „Пагоня" як дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь у найноўшай гісторыі. Гэты герб быў дзяржаўным сімвалам краіны ў 1991-1995 гадах.

Яўген Кулік пасля Другой сусветнай вайны закончыў Менскую мастацкую вучэльню (1957 г.), а пасля Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут (1963 г.). Вучыўся ў Л. Лейтмана, А. Малішэўскага, В. Цвіркі, А. Мазалёва. Маючы жывапісную адукацыю, пасля заканчэння інстытута пераарыентаваўся на графіку. З 1963 г. прымаў удзел у мастацкіх выставах. Яго майстэрня, што знаходзілася ў Менску насупраць будынка КГБ, стала ў 1960-я гады нацыянальным асяродкам беларускай сталіцы і атрымала назоў „На паддашку". Гэтая творчая суполка была адной з нешматлікіх нефармальных груповак у Беларусі, якая функцыянавала, нягледзячы на ціск улад цягам трыццаці гадоў. Пазней мастакі гэтага асяродка склалі ядро творчай суполкі „Пагоня". З канца 1980-х гадоў у майстэрні Куліка збіралася ўжо не культурная, а палітычная апазіцыя камуністычнаму рэжыму. Тут планаваліся многія акцыі Беларускага народнага фронту. Кулік уваходзіў у кіраўнічыя структуры БНФ, аздабляў розныя акцыі дэмакратычных сіл.

Яўген Кулік быў сябрам Беларускага саюза мастакоў з 1965 года. Быў абраны старшынёй камісіі БСМ па народным мастацтве. Ніколі не быў сябрам камсамола і камуністычнай партыі, гаварыў выключна па-беларуску. Аўтар станковых аркушаў і экслібрысаў. Аздабляў кнігі для дзяцей і дарослых, класіку і сучаснасць — пераважна беларускіх аўтараў. Працаваў мастаком у дзіцячым часопісе „Вясёлка". Вельмі вядомы яго графічныя нізкі „Помнікі дойлідства Гарадзеншчыны", „Замкі Беларусі", „Храмы Беларусі", „Сцяжынамі Язэпа Драздовіча", „Паўстанне 1863 г. у Беларусі". У 1970-1980-я гады шмат займаўся кніжнай графікай, аформіў дзясяткі кніжак, найлепшымі з іх былі „Слова аб палку Ігаравым", „Ад гоману бароў" Александровіча, „Мушка-зелянушка і Камарык-насаты тварык" Максіма Багдановіча, „Сонечны клубочак" Васіля Зуёнка. Сапраўдным шэдэўрам мастака стала кніга „Песня пра зубра" Міколы Гусоўскага.

Разам са сваім аднадумцам Лявонам Баразной Кулік стварыў цэлую нацыянальна-рамантычную плынь у беларускім пасляваенным мастацтве. У 1991 годзе разам з Уладзімірам Крукоўскім стаў адным з аўтараў эталона герба „Пагоня", які выкарыстоўваўся як дзяржаўны герб Беларусі да 1995 года. Яскравую характарыстыку Куліку даў вядомы мастак Уладзімір Басалыга: „Яўген Кулік быў нібы ганец, якога ў старажытныя часы высылалі з княскага войска несці на Бацькаўшчыну добрыя весткі. Кулік прынёс беларусам вестку пра Адраджэнне".

Апошнія гады жыцця Яўгена Куліка былі надзвычай цяжкімі. З гадамі ў яго пачала праяўляцца рэдкая хвароба суставаў. Мастака нібыта скручвала, косткі рабіліся крохкімі. Раз, паслізнуўшыся ўзімку, Кулік атрымаў ажно дванаццаць пераломаў. Памёр мастак 12 студзеня 2002 г. Пахаваны на Кальварыйскіх могілках у Менску. У лістападзе 2005 г. на могілках быў адкрыты помнік.

Падрыхтаваў **Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Калядныя ўспаміны





■ Кузаўскія калядчнікі

Студзень — самы багаты месяц у традыцыйныя святы, якія адзначаюць вернікі Праваслаўнай царквы. У спелым узросце, калі чалавеку прыходзіцца дажываць старасці адзінока, дык можа толькі са слязінкай у вачах успамінаць мінулае. А вось што захавалася ў маёй 76-гадовай памяці з дзяцінства.

У пачатках студзеня ішлі мы з братухай пехатою ў казённы лес за елкай. Снегу па калені, ды з дрэў зледзянелы снег сыпаўся за каўнер. Трэба было скрывацца ад леснікоў, бо інакш штраф за высечку елкі без дазволу быў непазбежны. Прынесенае дрэўка з лесу ставілі ў сенцах, каб абсохла. Затым на адвячорку заносілі ў пакой і ставілі ў адмысловы «крыжак», выкананы хатнім спосабам. Ёлку аздаблялі каляровымі ланцужкамі з гафрыраванай паперы, кардоннымі анёламі, шарыкамі ды яблыкамі, пячэннем дамашняга вырабу, цукеркамі «соплямі» у бліскучых паперках. У адмысловых падсвечніках ставілі дванаццаць карбаваных каляровых свечак, вешалі «зімныя агні», а на саму вярхушку чаплялі залацістую зорку. Пад ёлкай ставілі вялікага Дзеда Мароза намаляванага на кардоне. Гэтакага прывёз бацька, вярнуўшыся пасля вайны з канцлагераў у Аўстрыі. Вячэру спажывалі на адвячорку. Разумеецца, дванаццаць традыцыйных страў. У куточку ставілі вязку жыта — «каляду». На стол пад абрус клалі сена. Пасля вячэры не прыбіралі стала, ежу пакідалі душам продкаў.

Самы лепшы ўспамін захаваўся з калядавання. Заўчасна рыхтавалі з братухай гвязду. Вывучалі некалькі калядак. Самымі папулярнымі былі «Раждэство Хрыстова» і «Скінія златая». Калядавалі выходзілі ўдваіх з братам Віктарам. Закалядаваныя грошы дзялілі папалам. Выходзілі на адвячорку на сваю вёску, затым у суседні з Кузавай Глупень, дзе пражывала некалькі праваслаўных сем'яў. У пяцідзясятыя і шасцідзясятыя гады хадзіла шмат калядчнікаў — кузаўскіх і чужых. Адны перад другімі намагаліся першымі быць, бо першых заўжды прымалі. Традыцыя калядавання захавалася і па сённяшні дзень. Але калядчнікаў штораз паменшваецца. Сёлета, напрыклад, на першы дзень не было іх увогуле. Стаяў люты мароз, больш за дваццаць градусаў. Баяліся замерзнуць. На другі дзень таксама няшмат было. Да мяне завіталі дзве пары падлеткаў, з гвяздай і шопкай. Выканалі адну і гэту саму каляду. Дзякуй ім за гэта. А праўду сказаўшы, куццю спажывалі мы ў сямейным крузе. Прыехала дачка Аліна з унукамі Кінгай і Кжысем ды іхнім прыяцелем Данелем з Беластока. Старэйшая дачка Ірэна з Чаромхі спажывала вячэру ў сваім сямейным крузе. Мяне з Алінай таксама запрашалі ў госці. Але мы рашылі застацца ў бацькоўскім куце. Такая ўжо традыцыя.

Тэкст і фота **Уладзіміра СІДАРУКА**

# Навагоднія імпрэзы

Пачаўся новы 2017 год. Традыцыйнага «Сільвестра» чарамшане адзначылі шумна і з вялікай помпай. У Гмінным асяродку культуры ў Чаромсе навагодні баль арганізавала мясцовая прадпрымальніца Анэта Нічыпарук. Уваход — 100 зл. ад асобы. Арганізатар забяспечыў застолле ў рознага віду напіткі, гарачыя стравы ды халодныя закускі. Апоўначы было шампанскае з навагоднімі віншаваннямі, а пабач ГАК успыхнулі рознакаляровыя феерверкі. Іграў музычны гурт «Атут». Забава доўжылася да пятай раніцы.

А пабач Гміннай управы аматары танца сустрэліся на навагодняй дыскатэцы. Імпрэза пачалася а 23 гадзіне і доўжылася да другой раніцы. У імпрэзе ўдзельнічаў войт гміны Міхал Врублеўскі. Апоўначы былі феерверкі з навагоднімі віншаваннямі ды шампанскім. Па ацэнцы войта ў мерапрыемстве ўдзельнічала больш за сто чалавек.

На Шчодры вечар, г.зн. 13 студзеня, на святочную маланку «Добрэ знаем — пагуляем» запрашае фолькавы гурт «Чарамшына» і дыджэй Woj. Навагодні баль пачнецца а 20 гадзіне і будзе доўжыцца да раніцы. Уступ — 120 зл. ад асобы. Поўныя сталы з гарачымі стравамі, халоднымі закускамі, спіртнымі, халоднымі і гарачымі напіткамі, фруктамі і ласункамі забяспечваюць арганізатары. Затым запрашаем у Чаромху на Шчодры вечар!

**(ус)**

## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. не свята = 19 _ 20 _ 21 _ 22 _ 23 _ 7 _ 8 _;
2. мяч у варотах, як... сакол = 16 _17 _ 25 _;
3. партнёр бабы = 4 _ 5 _ 6 _ 18 _;
4. ніз пасудзіны = 27 _ 28 _ 26 _;
5. злучае аглоблі з гужамі = 13 _ 3 _ 11 _ 10 _;
6. патрабаванне на тавар = 9 _ 12 _ 24 _ 29 _ 2 _;
7. непасрэдны нашчадак = 1 _ 15 _ 14 _.

**(ш)**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| | | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| 16 | 17 | 18 | | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |
| | | | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 52 нумара**

Віза, міжрэчча, цымус, Байкал, Нітра, школа, дыскусія, Ліда, палын.

Рашэнне: **Зайцу і жабін скок страшны**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Міхалу Байко** з Беластока.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# 15.01 — 21.01

**(22.03. — 20.04.)** Шмат абавязкаў, але запануеш над сітуацыяй. Будзь асцярожным. Кампанейскае жыццё небагатае, дык аддай больш часу радні. Захавай раўнавагу з працай і адпачынкам. Добра еж і высыпайся. 16-22.01. настрой будзеш мець ненайлепшы, не рабі прыкрасці іншым.

**(21.04. — 21.05.)** Добры час. 18-22.01. пераканаешся, як многа значыш для кагосьці. Камусьці з тваіх блізкіх неабходная твая дапамога пры доме. Твае поспехі — пры супрацоўніцтве. Вельмі добра ў пары. Дазволь сабе на крыху ляноты і ласункаў (у меру!).

**(22.05. — 22.06.)** Адрабі «хвасты» на працы. На рабоце будзе шалець канкурэнцыя, якая не вельмі цябе кахае. Прыйдзецца рабіць добрую міну, хоць не будзе да смеху. Ад 19.01. разлічвай на розныя ільготы і падмацоўкі. Не перанатужвайся фізічна, асабліва ў спорце.

**(23.06. — 23.07.)** Знойдзеш новых сяброў. Усе будуць табе прыхільныя. На працы таксама някепская атмасфера (можа адыдзе хтосьці, хто муціў чыстую ваду). Пазбудзься з галавы чорных назойлівых думак, усё тады пойдзе лепш. Калі ты ў апошні час папраавіўся, дык можа гэта не з-за абжорства — правер шчытавідку або тое, што лякарствы якія прымаеш, не шкодзяць табе.

**(24.07. — 23.08.)** Афармляй найважнейшыя справы. Але спакойна, разважна: паможа Юпітар. Не правакуй канфліктаў, асабліва з партнёрам. Толькі пасля 19.01. пакінеш мінулае там, дзе яго месца. Выходзь да людзей. Не паддавайся эмацыянальным шантажам. Не пераходзь хваробы на нагах, бо можаш легчы пасля на даўжэй. Леў з трэцяй дэкады можа дазволіць на каларыйны перакус, не папаўнее.

**(24.08. — 23.09.)** Будзеш кемлівы і талковы, дзякуючы чаму шмат што давядзеш да парадку і будзеш мець прыбыткі. 18-20.01. лёгка ажыццявіш новыя задумы. Калі прыйшоў ты на свет у апошніх днях знака, можаш чакаць нейкага сюрпрызу ад Сатурна тыпу... неспадзяваная цяжарнасць! Варушыся, хадзі, пі сок з кіслай капусты. Дзева з паловы знака няхай купіць сабе штосьці файнае.

**(24.09. — 23.10.)** Шмат дасягнеш, але напрацуешся пры тым. 18-22.01. можаш карысна заінвеставаць. Нават пры кепскім настроі чакае цябе ўсмешка фартуны! Не арганізуй жыцця іншым і не развязвай іхніх праблем, абмяжуйся да парад. Стрэс цяпер шкодзіць табе падвойна.

**(24.10. — 22.11.)** Што вырашыш, тое і зробіш. Не ўстоіць перад табою ніхто. Добрая забава і фантастычныя кампанейскія лады. Магчымая трапная страла Амура, нават на вуліцы. Скарпіёны з лістапада раскрыюць інтрыгу, але прамаўчыце — счакайце на адпаведны момант. Скарпіён з кастрычніка няхай не наракае на кепскую працу, а хутка пашукае і знойдзе лепшую. Будзеш мець многа сілы, але папрацуй над тэхнікай.

**(23.11. — 22.12.)** Нядобры час для бравурнасці ці непрадуманых рашэнняў. Асабліва 16-22.01. не рызыкуй. Усё абдумай, каб упарадкаваць розныя справы. Старайся не дзейнічаць па імпульсе. Пазнаёмішся з цікавымі людзьмі. Можаш разглядзецца за падзаработкам. Вельмі дбай аб сябе, не стрэсуйся. Нюхай эўкаліптавы алей.

**(23.12. — 20.01.)** Будзеш моцны, рашучы. Ніякія цяжкасці не павернуць цябе з раз абранай дарогі. Паявяцца добрыя нагоды. Горача ў спальні. Дазволь кахаць цябе такім, які ты ёсць, не прытварайся і не падманвай. Адкрывайся і не бойся аказваць свае пачуцці ці слабасці. Благі настрой — толькі з-за недахопу святла.

**(21.01. — 19.02.)** Засяродзься на абавязках. Не перамайся тым, што не ўсё пойдзе па тваёй думцы. Не дамаўляйся з асобамі са складанай сямейнай сітуацыяй або каб толькі правесці час. Не спускай з вачэй важных дакументаў. Час на спакойную, дакладную працу; сходзі на дадатковыя прафесійныя курсы. Цяпер не пачынай новых бізнесаў. Еж пчаліны мёд і ўсміхайся. Ад 19.01. з кожным днём будзе лепш.

**(20.02. — 21.03.)** Твае даўнія памылкі будуць дараваныя (16-22.01.). Папулярнасць. Рыбы з апошняй дэкады, пакуль трапяць у чыесь страсныя сеці, няхай спачатку крыху ахалонуць — не памыліце хвіліннай жарсці з вялікім каханнем. Зменіш пагляд на розныя справы. Пойдуць уверх амбіцыі, але палёгкі мець не будзеш. Спакойна рабі сваё. Не пераборшч з выдаткамі. Не злуйся на ўсіх навокал!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Гэта ніякае знахарства і не *чаклунства*, гэта праўдзівыя малітвы божыя, — кажа пра свае замовы баба Маша. — Яны ж не ад людзей, яны ад Божай Маці. Яна дапамагае...

Дар перадказала ёй старая Вальчыха з суседства. Бабка не хацела забіраць дар на той свет. Яна сама рашыла, каб пасля яе смерці лекавала Маша. Ведала яе з дзяцінства. Назірала за ёй, правярала сумленнасць. Калі перад смерцю паклікала да сябе Машу, тая спачатку баранілася, мучылі сумненні. Ці хопіць ёй сілы, каб дапамагаць іншым? Трыццаць шэсць гадоў працавала санітаркай, адрабіла там рукі і ногі. Ды дажылася, што то без кульбакі за парог не выйдзе. А замаўляць гэта не просты выклік. Бывае, пасля лекавання хворых усе сілы пакінуць. На шчасце яна — жанчына колішняя, кожную работу ведае.

— Калісь мы моцна *гаравалі* пры бальніцы, — успамінае баба Маша.

Як гэта выглядала? Каб справіцца з абавязкамі палескай санітаркі, патрэбная мужчынская сіла.

— Усё было на нашых плячах, — кажа старэча. — Нашым абавязкам было абмыць і накарміць хворых, прыдбаць яду і дровы, а прыбіранне гэта ўжо не работа, гэта лічылася адпачынкам, разрыўкай.

Найцяжэй было абмыць пасцель з крыві. Пасцель, вопратку і ўсё іншае мылі ўручную. Ніякіх жа пральных машын не было. Маша ў міжчасе даглядала агонь у шасці печках, гатавала яду хворым. Каб яда смакавала і ішла на здароўе, спявала нейкую песню. Усе прадукты, уключна з мясам, здабывалі сваімі рукамі. Пры бальніцы трымалі дзве свінаматкі, каровы, курэй. Садзілі бульбу, агароды. У *лёху* — так на Палессі называюць склеп для захоўвання гароднінЫ і яды — заўсёды стаялі 3-4 бочкі з кіслай капустай і квашанымі агуркамі. Тут жа ляжала морква, буракі, бульба. Каб згатаваць яду, раней трэба загатовіць дровы. Дзеля гэтага адпраўляліся фурманкай у лес. Мужчыны ссякалі дрэвы, а яны, санітаркі, перарэзвалі калоды ўпоперак і грузілі на воз. Такая была праца, ад раніцы да вечара.

— Але мы не *старцавалі*, — кажа з гонарам жанчына, — усё ўмелі зрабіць дружнай кампаніяй.

А што такое «старцаванне»? Гэта асноўнае слова, якое не можа з'явіцца ў такімі месцы, дзе замовы і лекаванне. Бо «старцаванне» гэта тады, калі ходзіш па людзях і просіш дапамогі, гэта такое жабрацтва. У лекаванні патрэбны гонар, самастойнасць. Іначай як дапаможаш патрабуючаму чалавеку?

* * *

Баба Маша, хоць мае рэдкі дар, не бярэ грошай за лекаванне.

— Мае пацыенты найчасцей прыходзяць з бальніцы, лекарка іх высылае, — адзначае з гонарам старэча. — Вылекаваць залатнік немагчыма за адзін раз. Людзі прыходзяць тры або пяць разоў. Часам атрымаецца за шостым разам.

Што такое залатнік? Гэта тады, калі чалавек нешта цяжкае падыме і падарвецца ўсярэдзіне (przepuklina). Баба Маша спачатку правярае, як працуе пупок. Калі там няма пульсу, значыць сярэдзіна сарваная. Пасля, шукае па жываце запароу і пачынае масаж. Перад тым яна тройчы жагнаецца і вымаўляе сказ:

*Божая Маты, прыды помогаты!*

Далей ідзе спецыяльная замова, якую трэба прадэкламаваць на адным дыху:

*Божая Маты по моры ходыла,*
*Жовтую кость поміла,*
*Чырвоную кров піла.*
*Годы тобіэ ходыты*
*Жовтые косты ломыты,*
*Чырвону кров пыты.*
*Йды собіэ на міэстэчко,*
*Там золотое крысэлэчко.*
*Дэ тэбэ Господь родыв,*
*Там тобіэ місто встановыв.*

Замову трэба паўтрыць тры разы.



Баба Маша з Валодзікам

# У палескай глыбінцы (69)



Як адзначае народная лекарка, апошнім часам трапляе да яе многа маладых людзей, якія на пачатку скептычна ставяцца да лекавання. Але пасля, калі праходзіць боль і паяўляецца здароўе, яны вяртаюцца ўжо з іншымі абліччамі. У вачах яна бачыць удзячнасць.

* * *

Не памятаю дакладна колькі часу я правяла на панадворку бабы Машы, час развеяўся дзесьці па-над галовамі. Разам са мной выседжвала Галя Мартынюк і малы Валодзік, які часта адбягаў ад кампаніі і прыдумваў сабе гульні.

— А ж яшчэ табе гасцінчыка не дала, — прыгадала дзесь паміж песнямі і замовамі старэча. Яна з дапамогай кульбакі схадзіла ў свой «лёх», адкуль прынесла дзве сакавітыя грушы.

Падарунак пасмакаваў малому. Усе простыя жэсты і падарункі пасавалі да месца і абставін. Баба Маша замаўляла нядаўна дзіцятка і яго маці з суседняга сяла, якіх пакусаў сабака. Разам прыехала цешча. Яна якраз і ўгаварыла нявестку, каб не шукаць псіхолагаў, толькі з'ездзіць да бабкі. Я прасіла, каб народная лекарка расказала пра спосаб лекавання.

Баба Маша ляк выкачвае на хлеб, з якога фармуе тры кусочкі. Спачатку, як пры залатніку, жагнаецца і вымаўляе згаданыя ўжо словы:

*Божая Маты, прыды помагаты!*

Далей ідзе замова, з якой водзіць па целе спалоханай асобы кусочкі хлеба.

*Ліэкі мужыцькі, ліэкі жунуцькі,*
*Ліэкі парубоцькі, ліэкі попівскі,*
*ліэкі дякіівскі*
*Ліэкі тылячы, жэрэбячы, ліэкі собачы*
*З усіх очок, з усіх косточок*
*З кожного птаха.*
*З кожного створыня,*
*Громовыя, водзяные, падзяные*
*Йдітэ сухіе лозы ламайтэ*
*А раба божаго (імя) покідайтэ!*

Пасля сказанага трэба прашаптаць: *Врэкі на воронэкі* і тры разы гукнуць.

І гэта не быў канец архаічных атракцыёнаў. Баба Маша запрасіла мяне ў чысты пакой, дзе вочы звар'яцелі ад колераў і прыгожасці. Увесь пакой быў прыаздоблены каляровымі тканінамі, вышыванкамі, дэкорнымі прыладамі. Народная лекарка была яшчэ таленавітай рукадзельніцай, спявачкай і апякункай памяці. У цэнтральным месцы на стале стаяла фатаграфія памерлага мужа, абвязаная чорнай стужкай.

Баба Маша запаматалася як душа-чалавек. Яна не хацела выпусціць мяне з пустымі рукамі, яшчэ раз схадзіла ў свой «лёх», адкуль прынесла прыгаршчы сакавітых яблык. Яе гасцінец узрушыў да слёз. Пасля, калі я спажывала гэтую садавіну ў дарозе, у мяне склалася такое ўражанне, быццам фізічна пасмакавала часоў дзяцінства.

Прыгадалася нават гісторыя, як пакусаў мяне сабака, пасля чаго мой дзед запрог каня і без аглядкі павёз да бабы Матроны, каб яна замовіла ад сабачага пераляку.

(працяг будзе)

Фота і тэкст **Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960